Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 8 (4706) 22 лютага 2013 г.



4 Што паяднала Коласа і Гофмана?



9 Сіняя-сіняя... Галоўны колер краіны



12 Н. Любіч: «Аўтар павінен атрымліваць ганарары!»

## Пункцірам

✔ Перспектывы беларуска-французскіх культурных сувязей былі абмеркаваны на сустрэчы Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Беларусі ў Францыі Паўла Латушкі з дырэктарам Нацыянальнай кансерваторыі «Гранд Нансі» Жанам-Філіпам Наварам. Улічваючы актыўнае супрацоўніцтва ў арганізацыі культурных мерапрыемстваў, вырашана, што на міжнародным фестывалі кансерваторый Францыі, Бельгіі і Германіі, які сёлета пройдзе ў горадзе Нансі (Францыя), дырыжыраваць аркестрам кансерваторыі будзе народны артыст Беларусі Міхаіл Казінец.

✔ Мініяцюрная «Жалейка» Янкі Купалы, што пабачыла свет у Баку і ўзнаўляе выданне 1908 года, была прэзентавана ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Кніга памерам 35 на 47 мм была перададзена галоўнай кніжніцы Беларусі ў сувязі з 20-годдзем усталявання дыпламатычных адносін паміж краінамі.

✔ У літоўскім горадзе Друскінінкай праходзіць выстаўка «Шляхамі Якуба Коласа», якая прадстаўляе фотаматэрыялы з фондаў беларускага Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа.

✔ Нацыянальны гістарычны музей Беларусі распачаў праект «Партыя — правадыр Кастрычніка», прымеркаваны да 115-годдзя правядзення I з'езда Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі і 90-годдзя з дня адкрыцця Дома-музея I з'езда РСДРП. Распачаўся праект выстаўкай плакатаў «Назаўжды». Яшчэ адзін праект музея — цыкл выставак «Першыя», які адкрыўся экспазіцыяй мемарыяльных рэчаў Кузьмы Кісялёва.

✔ На гэтым тыдні ў Мінску прайшоў трэці фестываль кароткаметражнага айчыннага кіно *One Short Film Fest*. Традыцыйна ўдзельнічаюць у ім не толькі студэнты творчых спецыяльнасцей, але і непрафесійныя рэжысёры.

✔ Праект «Адам Міцкевіч і тэатр» стартаваў у Навагрудку. Прымеркаваны ён да 215-годдзя з дня нараджэння паэта і 75-годдзя з дня адкрыцця дома-музея ў раённым цэнтры. У межах праекта музей прадаставіць пляцоўку для выступлення тэатральным калектывам, якія прапануюць пастаноўкі па матывах твораў ураджэнца Навагрудчыны.

✔ Да Міжнароднага дня роднай мовы, які ва ўсім свеце адзначаецца 21 лютага, запрасілі спрычыніцца ўстановы культуры. Прагр ама Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі распачалася відэафільмам пра цікавыя звесткі з розных моў, пасля — прэзентацыі кніжных экспазіцый і паэтычныя чытанні. Літаратурная вечарына, на якую завіталі літаратары розных нацыянальнасцей, якія жывуць і працуюць у Беларусі, ладзілася ў музеі Якуба Коласа. А музей Янкі Купалы запрашае на «Ноч беларускай літаратуры», пачатак сёння а 19-й гадзіне. З 21 па 27 лютага самыя розныя імпрэзы і сустрэчы праходзяць на філалагічным факультэце БДУ.

**Падрыхтавала Таццяна МАСТОЎСКАЯ**



Фота Кастуся Дробава

## Пытанне да творцы

# Мова якога аўтара з'яўляецца для вас узорам?



**Уладзімір Сцяпан, пісьменнік:**

— Напэўна, няма такога творцы. У кожнага пісьменніка мова павінна быць свая. Калі ён піша неяк «узорна», то гэта нецікава. Іншая справа, чыя мова мне бліжэй. Адным з самых абазнаных і дакладных у празаічнай мове лічу Якуба Коласа. У яго дасканалая і распрацаваная мова. Таксама магу назваць Міхася Стральцова. Яшчэ мне цікава, як працуе Андрэй Федарэнка.

Коласаўская мова і тая, якой тады карысталіся пісьменнікі, была вясковая, блізкая да народа, жывая. У сённяшняй літаратуры шмат новых слоў, новых прынцыпаў пабудовы сказаў, нават абзацаў. Гэта гарадская мова, у ёй шмат запазычаных слоў або перарobленых — з польскай, англійскай і інш. Гэта не добра і не кепска, гэта — факт. Адно можна тут сказаць: лепш не рабіць штучных «беларускіх» займеннікаў запазычаным словам. Няхай ужо лепш будзе, якое ёсць па паходжанні, але натуральнае, не каструбаватае.



**Уладзімір Гніламёдаў, пісьменнік, літаратуразнаўца:**

— Перадусім, я вельмі ўважлівы чытач беларускіх слоўнікаў. Прачытаў амаль усе, якія ў нас выходзілі: Насовіча, Ластоўскага, Некрашэвіча, Крапівы... Да таго ж, дыялектныя слоўнікі. Для мяне гэта вельмі цікава: словы, іх будова, іх пераз овы.

Аднаго каго з пісьменнікаў цяжка назваць. Іх шмат у нас, багатых на мову. Вось Кузьма Чорны. Але яго мову не пяроймеш, яна вельмі «чорнаўская». Да таго ж гэта мова Случчыны. У кожным рэгіёне — свае моўныя рысы. Гэта вельмі добра, хоць краіна ў нас, здавалася б, і невялікая.

Увогуле багацце мовы — прыкмета Асобы, аўтарскай індывідуальнасці. Максім Танк, Пімен Панчанка... З сучасных — Андрэй Федарэнка: мова ў яго прыемная, выклікае павагу.



**Таццяна Мархель, народная артыстка Беларусі:**

— Ведаеце, кожнаму па-свойму мова грэе сэрца. Сёння якраз рэпеціравалі «Адвечную песню» Янкі Купалы. Гэта так блізка да народа, да мовы Смалявіцкага раёна, адкуль я сама. Адразу прыгадалася родная вёска, школа... Яшчэ «Сымон-музыка» Якуба Коласа, дзе ён сапраўны філосаф — мы больш прывыклі ўспрымаць яго як бытапісальніка. Мне спадабалася ў свой час мова Васіля Быкава: «спакваля насоўвалася», «чэпнула плячыма» — у нас у вёсцы так не казалі.

З рускіх — Пушкін. Пачынаю яго дэкламаваць, калі трэба тэрмінова пазбавіцца беларускага акцэнту. З гадзіну пачытаеш — акцэнту няма.

# Беларуская кніга падарожнічае па свеце

**Мікола БЕРЛЕЖ**

«Пад крыламі Дракона: Сто паэтаў Кітая» — назва анталогіі вершаў, якая пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда». Прыгожа афармленае выданне дзякуючы падтрымцы Рэспубліканскага інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя Белдзяржуніверсітэта патрапіла ў вядучыя бібліятэкі Беларусі, у школы, дзе вывучаюць кітайскую мову, гісторыю і культуру Кітая. Кніга, у якой упершыню на беларускай мове ў такіх абсягах прадстаўлена паэзія Паднябеснай, ужо вядомая і ў Пекіне.

Вось ліст, які днямі прыйшоў у Мінск ад старэйшага кітайскага перакладчыка Гаа Мана (яшчэ ў 1958 годзе разам з Гэ Баоцюанем ён пераклаў кнігу вершаў Максіма Танка на кітайскую мову): «... Віншую беларускіх сяброў, што выпусцілі зборнік вершаў ста паэтаў Кітая. Гэта вялікая справа. Дзякуй М. Мятліцкаму за яго ўдзячнае пачуццё і творчую працу па збліжэнні нашых народаў!

Думаю, што гэты зборнік будзе мецъ поспех сярод беларускіх літаратараў і аматараў кітайскай літаратуры і мастацтва...»

А перакладчык анталогіі — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Мікола Мятліцкі — і далей працягвае пераўвасабляць кітайскую паэзію на беларускую мову. Будзем спадзявацца, што анталогія «Пад крыламі Дракона...» яшчэ пашырыць сваю прастору. Дарэчы, у кнігі па сённяшнім часе і не такі малы для паэтычнага зборніка тыраж — 2500 асобнікаў.



# Класіку — адпаведны фармат

«Чытаеш — нібы кветкі ў вянок спавяваюцца». Так вобразна характарызаваў мову твораў Максіма Гарэцкага паэт Васіль Зуёнак падчас XXI Гарэцкіх чытанняў, прымеркаваных сёлета да 120-годдзя беларускага класіка. Яны адбыліся ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры ў суправаджэнні экспазіцыі, прысвечанай пісьменніку і яго твору «На імперыялістычнай вайне», амаль першаму ў сусветнай літаратуры ўзнаўленню трагедыі Першай сусветнай.



*Гаўрыла і Максім Гарэцкія.*

**Тацццяна СТУДЗЕНКА**

«Лёс яго склаўся так, што пры жыцці юбілеяў не было», — заўважыў Радзім Гарэцкі, родны пляменнік класіка. Сапраўды, Максім Гарэцкі не дажыў некалькі дзён да 45 гадоў, узросту, калі пачынаюць сур'ёзна адзначаць круглыя даты. І тым не менш, зроблена шмат — і зроблена грунтоўна! Адзін з першых гісторыкаў беларускай літаратуры, яе празаікаў і раманістаў, летапісец рэвалюцыйнага руху на Беларусі і першы апісальнік беларускіх радаводаў як асновы летапісу краіны.

Праўда і тое, што гэта ўнікальная спадчына ўсё яшчэ чакае наступных даследчыкаў. Калі больш-менш асэнсаваны Гарэцкі-апавядальнік, то гісторык-эпік — далёка не. Не лічыць жа сур'ёзным вызначэнне «Віленскіх камунараў» у тэрмінах постмадэрнісцкага дыскурсу. Не кажучы пра «Камароўскую хроніку», аналітычнаму разгляду якой, на жаль, не знайшлося месца ў выступленнях некалькіх дзясяткаў удзельнікаў Чытанняў. «Максім Гарэцкі ў нас — адна з самых выбітных гісторыка-філасофскіх постацей. Адсюль жаданне пабачыць адпаведную кнігу, дзе б прасочвалася станаўленне яго думкі і ўвасабленне яе ў творчасці. Гэта першая «падказка» даследчыкам. І другая — выдаць слоўнік мовы Максіма Гарэцкага», — паэт, ганаровы акадэмік НАН Беларусі Васіль Зуёнак выказаўся ў згодзе з найгалоўнейшым прынцыпам літаратуразнаўчай працы: патрабаваннем адпаведнасці фармату даследавання яго «прадмету».

Выдатная адпаведнасць, дарэчы, — акцэнт на радавой знітаванасці сям'і Гарэцкіх, захаванні ёю свайго твару, сваёй адметнасці ва ўсіх сітуацыях. Пра гэта слушна нагадаў Анатоль Бутэвіч, старшыня Грамадска-назіральнай камісіі пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь па ахове гісторыка-культурнай спадчыны. Прыкладам трываласці, культурнай засяроджанасці роду Гарэцкіх — спадзвіжніцкая дзейнасць Радзіма Гаўрылавіча, намаганнямі якога (зразумела, пры падтрымцы аднадумцаў) ладзяцца Чытанні, на сродкі якога выдаюцца потым зборнікі. Адпаведным маштабу класіка беларускай літаратуры будзе, зразумела, выданне яго твораў: «рускі том» Максіма Гарэцкага ўключаны ў план «Выдавецкага дома «Звязда».

# «На жаўруковай ноце...»

Мінскае гарадское аддзяленне СПБ сумесна з Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры арганізавалі вечарыну, прысвечаную 75-годдзю з дня нараджэння паэтэсы Нэлі Тулупавай.

**Ганна СТАРАДУБ**

У імпрэзе бралі ўдзел вядомыя паэты: Раіса Баравікова, Казімір Камейша, Галіна Каржанеўская, Янусь Малец і інш. На працягу сустрэчы гучалі вершы Нэлі Іванаўны. Трыпціх «Дабрыня», які распачаў вечар, пранікнёна і чула выканала артыстка Беларускай дзяржаўнай філармоніі Зінаіда Феакцістава. Вершы на духоўную тэматыку прачыталі Людміла Катраджы і паэтэса Ніна Загорская.

Кранальна гучалі дзіцячыя творы з вуснаў маладых прыхільнікаў таленту паэтэсы — удзельнікаў літаратурнага гуртка «Малінаўскія галасы».

Падзяліліся ўспамінамі пра знаёмства і сустрэчы з Нэлі Іванаўнай галоўны рэдактар часопіса «Алеся» Тамара Бунто, журналіст Зінаіда Вешка, мастак Анатоль Гармаза.

Былі прадстаўлены відэа- і аўдыёматэрыялы з запісамі песень на словы паэтэсы, успаміны родных і блізкіх, выступленнямі самой Нэлі Іванаўны.

Адбылася таксама прэзентацыя кнігі ўнучкі Нэлі Тулупавай Валерыі Радунь «След дажджу». Дарэчы, сапраўднае прозвішча Валерыі — Саротнік, а псеўданім ёй — яшчэ малой дзяўчынцы — прыдумала бабуля, прадказаўшы творчы лёс. Вершаваны зборнік выйшаў у серыі «Мінскія маладыя галасы».

Вядучая вечарыны паэтэса Іна Фралова падкрэсліла: сустрэча стала вечарам памяці і павагі да Нэлі Іванаўны — таленавітага майстра слова, чалавека глыбокіх жыццёвых поглядаў, духоўна моцнага і багатага.

# Тысячны нумар «Полымя»

Часопіс «Полымя» нядаўна сустрэў свой 90-гадовы юбілей. І вось яшчэ адна падзея — выйшаў у свет яго тысячны нумар. Каб дайсці да гэтай творчай вяршыні, спатрэбілася 90 гадоў і два месяцы.

**Мікола МЯТЛІЦКІ**



Трэба сказаць, літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс застаецца верным сваім лепшым традыцыям. А таму чарговы раз прапануе самыя цікавыя творы ды артыкулы. Прозу нумара прадстаўляюць апавяданне-быль Галіны Васілеўскай «Белыя парасончыкі з тапалі...» і праця рамана Уладзіміра Гніламёдава «Ліхалецце». Драматург Георгій Марчук у меладраме «Пісьмы салдату» распавядае пра жыццё сучаснай беларускай арміі.

А аматарам паэзіі асабліва раім новыя вершы Міколы Маляўкі ды балады Віктара Шніпа. Прыслухайцеся да парады Алеся Карлюкевіча і пазнаёмцеся з вершамі азербайджанскага паэта Чынгіза Аліаглы ў перакладзе на беларускую Міколы Мятліцкага.

У рубрыцы «Школьныя далягляды» друкуецца праця нарыса Алеся Марціновіча «Брама, адчыненая ў вечнасць», прысвечанага 120-годдзю з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага. Прапануецца ўвазе чытачоў і шэраг крытычных артыкулаў. Гэта даследаванне Крысціны Папко («Доўг памяці» Уладзіміра Калесніка ў кантэксце беларускай літаратуры факта), рэцэнзія Анатоля Маркушава на кнігу Анатоля Статкевіча-Чабаганава «Я — сын ваш», а таксама даследаванне Аляксея Рагулі, прысвечанае карцінам нацыянальнага быцця ў раманах Леаніда Левановіча.

Не абышлося ў гэтым нумары і без шчырых прызнанняў: «Мая сям'я — мой аркестр», — кажа народны артыст Беларусі Міхаіл Фінберг у інтэрв'ю Зіновію Прыгодзічу.

А напрыканцы Сяргей Дзямідчык прапануе выправіцца ў цікавую вандроўку па Ляхавіцкім раёне.

Набывайце 1000-ы нумар... і падпісвайцеся на 1001-ы!

*Сустрэчы*

# Музы прыходзяць а 12-й

На сваёй радзіме, у Шчучыне, Славамір Антановіч — госць заўсёды жаданы. Чарговая сустрэча была з вучнямі і педагогамі мясцовай гімназіі.

**Ганна РУДСКАЯ**

Дырэктар гімназіі Наталля Лебедзь зрабіла невялікі экскурс у творчую біяграфію госця, пазнаёміла ўдзельнікаў сустрэчы з кнігамі пісьменніка.

— Кожны мой твор звязаны з пэўным перыядам у жыцці, — патлумачыў Славамір Валяр'янавіч. — Калі працаваў у Вярхоўным судзе, нарадзілася кніга «Прыгавораныя да расстрэлу», у Савеце Міністраў — «Прывіды Мажэйкаўскай крэпасці». У кнізе «Лёс да запатрабавання» значнае месца аддадзена Шчучыну. Усе мае гісторыі заснаваны на дакументальных фактах, а для гэтага я шмат працую ў архівах. Напрыклад, кніга «Тыя, хто сышоў у несмяротнасць» напісана па ўнікальных архіўных дакументах КДБ. Часам вяртаюся да ўласных кніг, штосьці дапаўняю, уношу карэктывы. Так было з гістарычным раманам «Пётр Машэраў», які я неаднаразова перарабляў.

Па прызнанні пісьменніка, у яго ўсе творы любімыя. Кожную са сваіх кніг ён прапускае праз сэрца, праз душу.

— Яны для мяне як дзеці — усе роўныя, — гаворыць Славамір Валяр'янавіч. — Над кожнай я працую з вялікім жаданнем, стараюся напісаць так, каб чытачам было цікава, прывесці факты, якія прыхільнікі дакументалістыкі змогуць знайсці толькі ў маіх кнігах.

Юных удзельнікаў сустрэчы цікавілі самыя розныя пытанні, якія яны і задавалі пісьменніку. Безумоўна, гімназісты хацелі ведаць, адкуль Славамір Антановіч бярэ тэмы для сваіх сюжэтаў.

— Іх падказвае жыццё, — патлумачыў пісьменнік. — Стараюся знайсці тое, што выкліча ў людзей сапраўдны інтарэс, збіраю матэрыял, а потым шукаю спосабы яго падачы. Так і «нараджаецца» кніга. Дарэчы, мае чытачы часта цікавяцца, калі я паспяваю пісаць? Адкрыю сакрэт: у мяне ёсць час, калі я поўнасцю магу прысвяціць сябе творчасці, — з дванаццаці да трох гадзін ночы.

Разам з аўтарам на сустрэчу да гімназістаў прыехаў і яго сябра дзяцінства з вёскі Пілеўсі Уладзімір Бляк, які выканаў некалькі песень. На памяць пра сустрэчу Славамір Антановіч пакінуў дзецям аўтографы і свае кнігі, якія будуць захоўвацца ў бібліятэцы.

*Літабсягі*

# Напісанае сэрцам

**У сталічным «Кніжным салоне» адбылася прэзентацыя кнігі «Чырвоны аловак» доктара гістарычных навук Аляксандра Гужалоўскага. Гэта нарысы па гісторыі цэнзуры ў БССР. Арганізатарам і ініцыятарам сустрэчы выступіў Выдавецкі дом «Звязда», у якім была выдадзена кніга.**



Фота Кастуся Дробава

**Ганна ПАЛЯКОВА**

Гісторыя, на думку Аляксандра Гужалоўскага, навука дзіўная. Яе мэта — аб’ектыўнасць, дакладнасць фактаў. Але аўтар упэўнены: у гісторыі ёсць месца і суб’ектыўнасці, і эмацыянальнасці. Тым больш да тэмы, якую закранае ў «Чырвоным алоўку» Аляксандр Гужалоўскі, немагчыма застацца абыякавым.

Падчас напісання «Чырвонага алоўка» Аляксандр Гужалоўскі імкнуўся не проста да дакладнасці фактаў. «Чалавек піша кнігу не толькі розумам, а яшчэ і сэрцам. Нават калі гэта кніга па гісторыі», — сведчыць творца.

Кніга паведамляе пра драматычны час для літаратуры і мастацтва, час жорсткай цэнзуры і інфармацыйнага кантролю. Чытачы даведаюцца пра дзейнасць галоўных «вінцікаў» савецкай кантралюючай машыны — Галоўлітбела і Галоўрэперткама, трагічныя лёсы мастацкіх твораў і тэатральных пастановак, бязлітаснае масавае знішчэнне багатых бібліятэчных калекцый і музейных фондаў.

Праца над кнігай, якая ахоплівае перыяд з 1919 па 1941 год, працягвалася тры гады. У яе ўвайшлі матэрыялы, дакументы, перыёдыка, знойдзеная ў бібліятэках і архівах, а таксама сучасныя даследаванні па гэтай тэме. Аўтар пастараўся даць максімальную колькасць звестак, каб чытачы маглі ўявіць сабе цэльную і дакладную карціну мінулага. На жаль, велізарная колькасць дакументаў была знішчана.

На прэзентацыі прысутнічалі калегі і сябры Аляксандра Гужалоўскага, беларускія гісторыкі. Як слушна лічыць аўтар, гісторыя прадугледжвае разнастайнасць дум, меркаванняў, поглядаў. Таму на прэзентацыі адбылося цікавае абмеркаванне кнігі і гістарычная дыскусія.

*Арт-лінія*

# Адлік пачаўся

**Мастацкая галерэя «Універсітэт культуры» да 3 сакавіка запрашае наведвальнікаў на выстаўку «Ступені», якой адкрыўся Мінскі фестываль фатаграфіі.**

**Дзіяна КАРОЛЬ**

У выстаўцы бяруць удзел каля 50 сяброў творчага саюза «Фотамастацтва», якія прадставілі на суд гледачоў 175 фотаздымкаў, аб’яднаных у серыі.

— «Ступені» — першая выстаўка такога ўзроўню, калі атрымалася сабраць самых вядомых фотамастакоў нашага фотасаюза, — распавёў куратар выстаўкі, старшыня Народнага фотаклуба «Мінск», член савета творчага саюза «Фотамастацтва» Віталь Раковіч. — Запрашэнне да ўдзелу ў выстаўцы было разаслана ўва ўсе беларускія фотасаюзы. Два месяцы напружанай працы пайшло на адбор лепшых твораў: мы ацэньвалі ўзровень мастакоў, падачу матэрыялу, агульную мастацкасць. Апошняй складанасцю стала фарміраванне экспазіцыі: часам немагчыма было супаставіць адно з адным, бо паяўляліся ўнутраныя ці маральна-этычныя супярэчнасці. Напрыклад, было вельмі складана да Чарнобыльскай серыі Сяргея Плыткевіча падабраць работы такога ж узроўню і маральна-псіхалагічнага напружання. У канцэпцыю выстаўкі таксама першапачаткова была закладзена ідэя правезці работы па галерэях абласных і раённых цэнтраў, але наўрад ці знойдзецца яшчэ месца, якое ўтрымае такую вялікую экспазіцыю.



*Валерый Вядрэнка «Беларускі цуд».*

Сапраўды, удзельнікі не мелі ніякіх абмежаванняў у выбары тэм і жанраў, таму гледачы маюць цудоўную магчымасць поўнасцю ацаніць сучасны стан беларускай фатаграфіі.

Як адзначыў старшыня творчага саюза «Фотамастацтва» Сяргей Плыткевіч, Мінскі фестываль фатаграфіі абяцае быць багатым на цікавыя падзеі: у яго рамках пройдзе шэраг фотавыставак, а таксама міжнародная канферэнцыя кіраўнікоў фотасаюзаў з Украіны, Малдовы, Грузіі, Арменіі і Азербайджана:

— Мы маем творчы праект, галоўнай мэтай якога з’яўляецца абмен вопытам паміж прадстаўнікамі самых розных фотаклубаў. Запланаваны пленэры, анлайн-фоташкола. Міжнародная канферэнцыя, якая будзе праходзіць на базе інстытута журналістыкі БДУ, — таксама адзін з элементаў гэтага праекта. Да таго ж, у дзень завяршэння фестывалю фатаграфіі (канец сакавіка) адбудзецца адкрыццё выстаўкі работ фотарэпарцёраў. Спадзяюся, усім будзе цікава паглядзець, што ўяўляе сабой беларуская фотажурналістыка. Задакументуе вялікую працу, зробленую падчас фестывалю, спецыяльны каталог, у які будуць уключаны работы ўсіх удзельнікаў выставак.

Трэба адзначыць, што правядзенне выніковых выставак аб’яднання «Фотамастацтва» плануецца штогод. Такім чынам, «Ступені» — гэта толькі пачатак вялікага шляху.

*Повязі*

# Выгоды народнай дыпламатыі

**Значным падзеям — 95-годдзю стварэння незалежнай рэспублікі Чэхаславакіі і 20-годдзю ўстанаўлення дыпламатычных адносін паміж Чэшскай Рэспублікай і Рэспублікай Беларусь — была прысвечана вечарына «Паміж Прагай і Мінскам», якую ладзіла таварыства беларуска-чэшскай дружбы.**

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

Як і належыць падчас юбілеяў, выступоўцы прыгадвалі самыя значныя моманты мінулых гадоў, аднолькава важныя і для беларускага, і для чэшскага боку. Акцэнтуючы ўвагу прысутных на фактах з сучаснай гісторыі чэхаў і славакаў, прыкладам цывілізаваных адносін назваў старшыня таварыства Валерый Гедройц стасункі паміж краінамі, якія яшчэ нядаўна ўтваралі адзіную дзяржаву. Ды і ці так важна адміністратыўная прыналежнасць, калі людзей аб’ядноўвае высакародная мэта — культурнае збліжэнне.

Удзельнічаць ва ўрачыстасці часовы павераны ў справах Чэшскай Рэспублікі спадарыня Дагмар Дзідэнка Наваградска, на жаль, не змагла з-за хваробы, яе замяніў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Славакіі ў Беларусі спадар Марыян Сэрватка (дарэчы, добры сябра спадара Іржы Караса, тэрмін пасольскіх паўнамоцтваў якога скончыўся не так даўно).



*Влтава. Работа Яўгена Колчава.*

З вялікай удзячнасцю асобу Іржы Караса і яго дзейнасць выступоўцы прыгадвалі не раз. Асабістая зацікаўленасць пасла і любоў да беларускага мастацтва паспрыялі таму, што выстаўка твораў нашых мастакоў адбылася ў святая святых Чэхіі — парламенце, дзе дагэтуль экспанаваліся толькі чэшскія творы. Рэкордная колькасць выставак — 47 — прайшла ў Беларусі. Спадар Карас стаў галоўным героем стужкі, створанай для цыкла перадач «Bet-Lechem — Betlem» («Дом хлеба»). Рэжысёр Атакар Шміт і сцэнарыст Яна Студнічкова даверылі Іржы Карасу распавесці пра краіну, якую нельга не ўпадабаць, — Беларусь. І тут трэба аддаць належнае: спадар пасол не дыктуе, як беларусам трэба будаваць жыццё. З захапленнем ён расказвае пра тое, што не можа не выклікаць павагі: высокую культуру і багатую гісторыю беларускага народа.

Шмат добрых слоў пра краіну, якая заўсёды была прыцягальнай для беларусаў, выказалі скульптары Эдуард Астаф’еў і Яўген Колчаў, мастакі Ігар Бархаткоў і Аксана Аракчэева. На сценах залы Дома дружбы ў фотападарожжа па сталіцы Чэхіі і адным з яе малых гарадоў Тржэбічы ўдзельнікаў мерапрыемства запрашалі работы Яўгена Колчава і студэнта чэшскай «Акадэміі кіно» Іржы Караса-малодшага. Цудоўным падарункам для гасцей вечарыны стала выступленне салісткі оперы Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь Дзіяны Трыфанавай і канцэртмайстра Таццяны Молакавай.

*Абрысы*

Урок роднай літаратуры ў віцебскай гімназіі імя А. Пушкіна правёў паэт Алег Салтук. Пачаўся ён з вершаў госця. Чытала іх і расказвала пра жыццё і творчасць паэта настаўніца Святлана Шумкова. А потым вершы А. Салтука чыталі гімназісты. Паэт адказваў на пытанні вучняў, расказваў пра асветнікаў Еўфрасінню Полацкую, Францыска Скарыну, Сімяона Полацкага, сучасных выдатных пісьменнікаў прыдзвінскага краю. На развітанне А. Салтук падарыў гімназіі зборнік сваіх вершаў «Не разлюбі...», а таксама некалькі кніг беларускіх паэтаў.

Юбілейная выстаўка жывапісу і графікі народнага мастака Беларусі, уладальніка шматлікіх прэстыжных узнагарод, лаўрэата прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва Леаніда Шчамялёва «Каардынаты жыцця» будзе праходзіць да 25 сакавіка ў гарадской мастацкай галерэі твораў Л. Шчамялёва. Любоў, Вайна, Радзіма, Жанчына, Сям’я, Дом, Майстэрня — вось гэтыя каардынаты, якія ствараюць структуру светапогляду мастака. Менавіта яны знайшлі адбітак у яго творчасці. Частка прадстаўленых работ — уласнасць аўтара. Некалькі ранніх твораў гледачы пабачаць упершыню. У экспазіцыі таксама прысутнічаюць работы з фондаў галерэі і іншых музеяў, творы з прыватных калекцый.

«Я люблю цябе, Беларусь!» — так называлася літаратурная вечарына, якая адбылася ў Чавускім раённым цэнтры культуры і вольнага часу з нагоды 75-гадовага юбілею мясцовага паэта Міколы Салаўцова і выхаду з друку яго новага паэтычнага зборніка «Сінія валошкі». Грамату Саюза пісьменнікаў Беларусі Міколу Салаўцову ўручыў старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення СПБ Уладзімір Дуктаў. Свае віншаванні выказалі М. Салаўцову яго сябры па творчасці: супрацоўнік абласной газеты «Магілёўскія ведамасці», празаік Аляксандр Цераханаў, самадзейны кампазітар з г. Магілёва Уладзімір Пашчанка. Шмат хто з прысутных атрымаў ад юбіляра ў падарунак кнігу паэзіі «Сінія валошкі», творы з якой гучалі на працягу ўсёй вечарыны.

Вялікае літаратурнае свята адбылося ў вёсцы Хатоўня Рагачоўскага раёна. Тут у сельскім Доме культуры прайшла вечарына, прысвечаная 65-годдзю з дня нараджэння славутага земляка — пісьменніка, драматурга і публіцыста Васіля Ткачова. Васіль Ткачоў, дэманструючы фотаздымкі, падзяліўся ўспамінамі пра дзяцінства, якое прайшло сярод дарагіх яму людзей у в. Гута Рагачоўскага раёна, дзе нарадзіўся будучы пісьменнік, і ў в. Іскань Быхаўскага раёна, дзе ён вучыўся. Як падкрэсліў пісьменнік, амаль усе станоўчыя героі шматлікіх яго твораў узяты з асяроддзя землякоў. І за гэта яму вялікую падзяку на вечарыне выказалі самі земляні — настаўнікі, работнікі культуры, сельвыканкама, вяскоўцы, якія добра ведаюць творчасць Васіля Ткачова, любяць яго самога і ягоныя кнігі. Старшыня Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Гаўрыловіч ад імя праўлення СПБ урачыста ўручыў Васілю Ткачову самую высокую пісьменніцкую ўзнагароду — медаль «За вялікі ўклад у літаратуру», а таксама Ганаровую грамату абласной пісьменніцкай арганізацыі.

# У краіне музыкі і казкі

Музыка і казка — два сусветы, дзве спрадвечныя каштоўнасці, што няўлоўна злучаюцца паміж сабой. «**Песняй** сэрцайка сагрэта, **казкай** ясняцца дзянькі», — сцвярджае Якуб Колас у паэме «Сымон-музыка».

**Галіна АДАМОВІЧ**

Казка набліжае дарослага чалавека да свету дзяцінства, калі надзвычай востра і ўпершыню ўспрымаюцца найвялікшыя дзівосы наваколля. Калі сваёй чуйнай душой маленькая істота ўлоўлівае і «як жытцо загаманіць, як зазвоняць, заіграюць мушкі, конікі, жучкі, і галоўкай заківаюць, засмяюцца васількі» (Я. Колас).

І Эрнст Тэадор Амадэй Гофман, і Якуб Колас пісалі казкі. Казка Гофмана «Шчаўкунок, або Мышыны кароль», аздобленая неўміручай музыкай Чайкоўскага, — адзін з найвялікшых шэдэўраў усіх часоў і народаў. У 1960-я гады, у пачатку асваення касмічнай прасторы, любілі задаваць пытанне: калі чалавецтва сустрэнецца з іншапланетнай цывілізацыяй, якое найвялікшае культурнае дасягненне яно зможа прадставіць? І сярод адказаў быў: «Шчаўкунок».

Мышынае войскі, ёлачныя ўпрыгожванні (шары, гарматы, стужкі, драўляныя конікі і лялькі), чарадзейныя змейкі — усе гэтыя нежывыя, але адухоўленыя Гофманам казачныя істоты жывуць і дзейнічаюць у яго мастацкім свеце. У казачным свеце Коласа прамаўляюць Ручаёк і Вецер, а адзінокае Дрэва любіць «паслухаць, што гаманіў непаседа Вецер, таксама і Ручаёк любіла яно, толькі не ўмела сказаць, як моцна любіць яго».

Пясняр — той, каму дадзена распавесці пра гэта — «як моцна любіць», а таксама пра тое, як «сонейка, выплыўшы з-за лесу», песціла Жалудок «сваім цяплом, бы тая маці», але найперш расказаць пра гора, «якое выцерпела гэта Каліўка жыта», пра тыя слёзы, якімі заплакала Хмарка «над роднымі палямі» (з казак Коласа)...

Казкі Коласа сваім сацыяльным падтэкстам надзвычай блізкія казкам-аповесцям Гофмана «Залаты гаршчок», «Крошка Цахес, па мянушцы Цынобер». Нацыянальнае мінулае, тагачасная сітуацыя ў Германіі (Гофман) або на беларускіх землях (Колас) — фон і кантэкст, у якім адбываецца дзеянне літаратурных казак абодвух пісьменнікаў. Абодва аўтары абапіраюцца на традыцыі народнай творчасці, каб узысці на вяршыні літаратурнага майстэрства. Яны абодва шукаюць свае вытокі ў нацыянальнай даўніне, каб узгадаць пра неўміручае багацце, пра непрыхаваную прыгажосць той спадчыны, якую пакінула родная зямля. І каб паказаць, што нацыянальная мінуўшчына нарадзіла скарб, які «пазычаны, адбіты, у сэрцы перажыты і росамі абмыты» і які «як доўг, як дар, нясе пясняр». Але ёсць у гэтай даўніне столькі трагічных малюнкаў, столькі тужлівых і жаласных нот, што сэрца музыкі не можа не адгукнуцца з болем. А колькі Зла разлілося з тых даўніх часоў, як распаўзлося яно па вёсках і гарадах, па краінах і кантынентах... Заўважыць гэтае Зло, адчуць яго ўдушлівы подых можна ў творах абодвух пісьменнікаў.




Але ж мышынае войска перамагае слаўны Шчаўкунок. Гэты герой увасабляе прыгажосць найвялікшага свята — сустрэчы Новага года. Яно сімвалізуе тую доўгачаканую перамогу над сіламі Зла, тое адраджэнне святла, аднаўленне, перараджэнне чалавечай душы, якога так прагнуць героі Гофмана і Коласа.

«Зло — не заўсёды Зло», — кажа Колас.

І мышынае войска было разбіта. І крошка Цахес пазбавіўся сваіх несапраўдных дзівос, тых здольнасцей, якімі адарыла яго фея. І яму больш не ўдаецца выдаць уяўнае за сапраўднае, ён больш не пазбаўляе іншых тых высокіх талентаў, якіх дамагаюцца героі Гофмана ў цяжкай працы, у імгненнях творчага ўзлёту і лунання, ён болей не ўспрымаецца як усемагутны ўладар думак і паўнаўладны пераможца.

А Шчаўкунок ператвараецца ў Прыгожага прынца. Таму што такі закон жыцця, закон усеўладнага сусвету, якому падпарадкавана і муза Гофмана, і муза Коласа.

З гэтай вечнай асновы пачынаецца свет мастацтва. Яно пачынаецца «ад роднае зямлі, ад гоману бароў, ад **казак** вечароў, ад **песень** дудароў...» (Колас), і «...лишь немногие, пробудясь от своей грёзы, поднимаются вверх и, пройдя через царство грёз, достигают истины. Это и есть вершина — соприкосновение с предвечным, неизречённым!» (Гофман).

«Я обретался в роскошной долине и слушал, о чём поют друг другу цветы. Только подсолнечник молчал и грустно клонился долу закрытым венчиком. Незримые узы влекли меня к нему. Он поднял голову — венчик раскрылся, а оттуда мне навстречу засияло око. И звуки, как лучи света, потянулись из моей головы к цветам, а те жадно впитывали их. Всё шире и шире раскрывались лепестки подсолнечника — потоки пламени полились из них, охватили меня, — око исчезло, а в чашечке цветка очутился я», — піша Гофман. «...І сама сабой галоўка, / заварушыцца, кіўне / у тахт нейкім дзіўным спевам, / што звіняць вакол яго, / і ласкаючым павевам / песціць, гойдае ўсяго... Ён і рэха сваё кліча, / і размову вядзе з ім», — апавядае Колас.

Музыка — мастацтва, якое разбурае асновы Вавілонскай вежы, той вежы, што ўзведзена між людзьмі, між народамі. Музыка злучае ў адзінае цэлае, бо гаворыць на мове чалавечых пачуццяў, на мове душы. І адбываецца цудоўная размова чалавечай душы з Богам, нячутная гутарка душ паміж сабою, ажыццёўленая ў гармоніі музычных гукаў і спеваў. Так размаўляюць з іншымі героі Гофмана — кавалер Глюк, студэнт Ансельм... Так вядзе сваю размову Сымон-музыка: «Але чуў ён, чуў душою, / сэрцам чуткім і жывым / у тым звоне штось такое, / што жыло і ў ім самім».

Музыка — першае з мастацтваў, якое набліжана да вечнасці, да найвялікшай гармоніі Сусвету. І гэта найлепш разумелі рамантыкі, чые душы адмаўляліся ад прыземленасці паўсядзённых турбот, ад прагнасці і «крыхаборства» (як сказаў бы Гофман) і луналі ў свеце мараў, цудаў, дзівосаў, заваражаныя «вясёлкавым ірдзеннем», «шолахам начэй» і тысячамі «ніцей, з якіх аснована і выткана жыццё» (як сказаў Колас). «Властно заключал он в звуки всё, в чём с предельной силой выражается ненависть, любовь, отчаяние, неистовство»...

Абодва пісьменнікі — рамантыкі-музыкі, якія ўзлуналі па-над светам пустым і ненажэрным, дзе галоўная мара — вяршыня харчовага ланцужка, на якую караскаюцца, забыўшыся пра першыя вясновыя кветкі і ільдзінкі, што так цудоўна спалучаліся ў далёкім дзяцінстве, калі мы ўсе разам яшчэ не адвучыліся глядзець на зямлю і бачыць яе сапраўдную прыгажосць.

Колас і Гофман былі ахопленыя адзіна верным пачуццём, як можна сказаць, перафразуючы Хемінгуэя, — пачуццём любові. І адной з праяў гэтага пачуцця была любоў да найвялікшага з мастацтваў, да музыкі, бо яна сама была тым дзівосным покрывам, якое раскінулася над зямнымі працягамі, была той вясёлкаю, што злучыла «быццё і небыццё» (Я. Колас), мінулае і сучаснае.

Так, выстаўка «Малюнкі Гофмана», размешчаная ў музеі вялікага беларускага Песняра, не толькі злучае мінулае і сучаснае, паэзію і прозу, музыку і слова, але найперш збліжае нашы народы, людзей, якія прагнуць сустрэчы з сапраўднымі дыяментамі чалавечай душы, з тым, з чаго «аснована і выткана жыццё і злучана быццё і небыццё...»

# Ад лютага — у вечнасць

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

Здаецца, колькі ўжо год прайшло з тае пары, як не стала ў гэтым свеце Алеся Пісьмянкова, але зноў пра яго нагадвае мне месяц, у які ён нарадзіўся, пра які пісаў:

*Люты ў валёнкі абуты,*
*Апрануты люты ў кажух.*
*Люты спрабуе на лютні*
*Апошні акорд завірух.*
*Чуеце лютага лютню?*
*У лютага слых абсалютны.*

Яго голас з гэтымі радкамі гучаў мне на высокай заснежанай строме над Бесяддзю ў родных яму Бялынкавічах, туды мы з яго сябрамі-пісьменнікамі прыехалі, каб светла і цёпла ўспомніць цудоўнага нашага паэта, глыбокага і тонкага лірыка, выдатнага чалавека і майго найбліжэйшага сябра.

Ён часта жартаваў пра свой музычны слых, што мядзведзь яму наступіў на вуха, але слых паэтычны, духоўны ў яго быў, як і ў яго радках пра люты, — абсалютны.

Памятаю, колькі разоў ён гаварыў мне, углядаючыся ў неба:

— Якубавіч, памятаеш, у Пастарнака: «Февраль, достать чернил и плакать...»? Паглядзі, якое прадвесне напрыканцы лютага на небе!

І згадваў свае радкі:

*Гэта, паверце, не песня,*
*Песню я й сам не ведаю.*
*Проста азяблы бярэзнік*
*Раптам стаў фіялетавым...*

Гэтае фіялетавае неба надавала яму веры ў вясну, у тое, што «кроны стануць зялёныя, будуць птаствам прапетыя...» Ён любіў жыццё, любіў прыроду. Пра гэта пакінуў поўныя светлай шчырасці радкі.

Кнігу Алесь Пісьмянкоў любіў надзвычай. Чытаў і перачытваў класіку. Мог на памяць працытаваць цэлыя абзацы з Талстога, Буніна, Паўстоўскага, а вершы Пысіна, Барадуліна, Кузняцова, Сакалова мог чытаць гадзінамі.

Калі я быў на свяце беларускага пісьменства ў Глыбокім, узгадаў нашы паездкі ў Глыбокае разам з Алесем Карлюкевічам, дзе нас гасцінна сустракаў паэт, дырэктар школы Віталь Гарановіч. Менавіта з Віталем Гарановічам мы планавалі сустрэцца ў Мінску і разам пахадзіць па памятных мясцінах горада ў суботу, а ў пятніцу Алеся не стала...

Засталіся вершы. Яны з гадамі не паблеклі, не сцерліся з памяці. У іх, я веру, будзе доўгі і шчаслівы лёс, бо Алесь не памёр, нездарма адна з яго кніг так і называецца: « Я не памру, пакуль люблю». Ён проста пайшоў у вечнасць, ва ўспаміны блізкіх людзей, застаўшыся назаўсёды сваімі цудоўнымі радкамі...

*Пасля лютаўскай завеі*
*На заснежаным двары*
*На марозе ружавеюць*
*Гарадскія снегіры.*
*З імі дзень пачну я новы,*
*У настрой іх свой вазьму,*
*Каб ружовасць снегірова*
*Мне свяціла ўсю зіму,*
*Каб у ранішнім трамваі,*
*Тым, што штурмам зноў бяру,*
*Падзяліцца ўсім, што маю:*
*Даць усім па снегіру.*




Калі сёння нехта яшчэ не адкрыў для сябе вартасць і глыбіню беларускага паэтычнага слова — чытайце Алеся Пісьмянкова. Ён з намі.

**25 лютага мінулага года выдатнаму паэту Алесю Пісьмянкову споўнілася б 55 год. На старонках «ЛіМа» была адзначана гэтая дата. А напрыканцы 2012 г. у рэдакцыі газеты «Звязда» па заказе і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі выйшаў зборнік выбраных твораў паэта «Не знікай». У новае выданне ўвайшлі вершы і эсэ розных гадоў. На вокладцы кнігі — глыбокія сляды ў снезе губляюцца за далягладам. Нібы дарога ў вечнасць. І калі вы разгорнеце гэты зборнік, учытаецеся ў яго радкі, то пераканаецеся: вечнасць, несмяротнасць сапраўды наканаваная паэзіі Алеся Пісьмянкова.**

# Ялінка-націнка




**Соф'я МАРОЗАВА**

Бываюць успаміны-інсайты, што ўрываюцца ў будзённае жыццё і цалкам змяняюць яго каардынаты. У такія моманты час нібыта спыняецца, і няма нічога важнейшага за ўспамін, за выпадковую, але дарагую сустрэчу з ім. У апавяданні Васіля Макарэвіча «Яліна-ялінка» («Полымя», № 1) герой звeдвае гэты стан, выпадкова пабачыўшы на Камароўскім рынку ялінку свайго дзяцінства. З першых жа радкоў відаць, што ў яго асаблівыя стасункі з дрэўцам: ялінка — найлепшы сябар, сведка самых неверагодных дзівос і прыгод, і нават больш — «сястра-сястрычка», «сястрычка-сінічка». Апавяданне адсылае да таго ўзросту, калі ўсе дрэвы жывыя, на пагорках можна адшукаць перуновую стралу, уночы сняцца «даўгавухія і пацешныя зайцы» і нішто не заваражвае больш як матуліны кросны.

Апавяданню ўласцівы то эмацыянальна ўзрушаны, то цёплы лірычна-іранічны тон, якому паддаешся, як подыху дзяцінства ці чароўнасці калядных свят — так і хочацца ўслед за аўтарам усклікнуць: «Ах, ялінка-былінка, ялінка-галінка!»

Значную частку апавядання складаюць успаміны героя, але яно не ператвараецца ў нізку: аповед дынамічны і падпарадкуецца сюжэтнай логіцы. Сарцавіна — эпізод, калі маці знаёміць хлопчыка з ялінкай, яго маленькай лясной сястрычкай. Гэта і ёсць той «магічны акт», які, памножаны на веру, парадніў хлопчыка з дрэўцам на ўсё жыццё. Наіўная і ўсёмагутная дзіцячая фантазія! Не дзіва, што напачатку герой ледзь не трызніць ялінкай, аберагае яе, як найвялікшую таямніцу. Аўтару ўдалося паказаць свет з нетраў дзіцячага ўспрымання і разам з тым — з цеплынёй дарослага (так, наўрад ці дзіцёнак кпліва назваў бы сяброўку «гэтая страказа» — так хутчэй пацвельваюць жэўжыкаў бацькі).

Плынь успамінаў кружляе вакол ялінкі, часам аддаляючыся ад яе — і ў аповед прыходзяць дзівакаваты і гаспадарлівы Юстын (ён адзін у сяле жыве «па Канстытуцыі»), каларытны Мікодзь — персанажы, роўнаважлівія насельнікам «Ніжніх Байдуноў» Янкі Брыля. Зрэшты, у параўнанні з Брылёвым, досціп у апавяданні больш мяккі, тонкі, нават лірычны (больш... дзіцячы?): «У дадатак Юстын чамусьці згадаў яшчэ філасофію і з такім захапленнем пачаў гаварыць пра яе, нібы гэта была мудрая і раздабрэлая на гарадскіх харчах кабета, якая бачыць кожнага навылёт». Такую ж афарбоўку маюць і аўтарскія слоўкі — «блiскотны», «страхатлівы», «аса-шаляніца» — і іронія ў іх, і цеплыня, і каларыт. Аўтар знаходзіць безліч найменняў для дрэўца — «ялі-на-ялінка», «ялінка-малінка», «ялінка-хмурынка», «ялінка-націнка»... І паўторы тут як нідзе поўняцца пяшчотай. Васілю Макарэвічу ўдалося стварыць сакавітае апісанне, і не апошнюю ролю, відаць, адыграў яго досвед паэта.

Дрэва — адвечная паралель да чалавека, яшчэ з фальклорных часоў; яно ж і ўвасабленне мясціны (у класіцы — радзімы) — сасна, бяроза, дуб, ліпа, каліна... У апавяданні Васіля Макарэвіча ялінка ўсё ж, думаецца, не абрастае сімвалізмам — застаецца сабой, захоўвае сваю натуральную чароўнасць і містычны водар. Яліна — дрэва жыцця і смерці: яна вітае кожны новы год і праводзіць людзей у апошні шлях. «У паху яліны маецца прэсны прысмак ладану, які нагадвае, што жыццё наша не вечнае — ёсць у ім шчаслівы пачатак і трагічны канец». Не робіцца ялінка і выключна каляднай дэкарацыяй: перадсвяточная мітусня ля Камароўкі — нагода падзяліцца ўражаннямі дзяцінства, а яны вяртаюцца да ялінкі ў розныя поры года.

Апавяданне чытаецца на адным дыханні — як, уласна, пралятае і сам успамін у свядомасці героя. Урэшце апавядальнік вяртаецца на гандлёвы пляц, да закутка з лясными прыгажунямі. Вяртаецца абноўлены.

Твор пазбаўлены маралізатарства, але ідэі вынікаюць неўпрыкмет — характво прыроды, культура зносін, повязь чалавека з усім жывым.

«Яліна-ялінка» Васіля Макарэвіча — шчыры лірычны маналог, сустрэча з вясковай казкай сярод сталічнага тлуму і мітусні. Думаецца, апавяданне будзе цікава ўсім, хто не супраць паглядзець на свет знізу ўверх.

# Сінема, сінема, сінема!




**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

Апошнім часам у «тоўстых» часопісах становіцца модным рабіць тэматычныя выпускі. Выпадкова ці не, але ў цэнтры студзеньскага нумара «Нёмана» — Яго Вялікасць Кінематограф.

Крымінальны дэтэктыў Сяргея Трахімёнка «З'ехаць у Парыж» можна назваць «кіно ў квадраце». З аднаго боку, ён пазначаны як кінааповесць. З другога, галоўныя героі непасрэдна звязаныя з гэтым відам мастацтва. Алена, маці галоўнага героя Паўла, — былая актрыса. Вызваліць сына, скрадзенага за нявыплачаныя пазыкі, ёй дапамагаюць сябры, якія калісьці працавалі на здымках каскадзёрамі.

Дзеянне кінасцэнарыя, як і ў іншых творах Трахімёнка, адбываецца ў халодным і жорсткім свеце, дзе пануюць крымінальныя структуры. Перамагчы іх могуць толькі прадстаўнікі праваахоўных органаў, вобразы якіх, зразумела, станоўчыя. Зрэшты, для развіцця інтрыгі ў іх асяроддзі абавязкова знаходзіцца здраднік... «З'ехаць у Парыж» цалкам адпавядае творчай манеры С. Трахімёнка: імклівае разгортванне сюжэта, стрыманы мужчынскі стыль, здольнасць пісьменніка трымаць чытацкую ўвагу. Для аб'ектыўнасці, гэтым разам вобразы не вызначаюцца вялікай псіхалагічнай глыбінёй. Зрэшты, жанр кінасцэнарыя гэтага не надта і патрабуе.

Аляксандр Брыт прапанаваў чытачам два апавяданні. З кінематографам звязаны другі твор — «Раскадроўка». Галоўная гераіня Маргарыта з дзяцінства марыць здымацца ў кіно. Урэшце заканчвае мінскі Тэатральна-мастацкі інстытут, бярэ шлюб з маладым балгарскім акцёрам, трапляе з ім у Германію. Там яна працуе прыбіральшчыцай і афіцыянткай. Няўжо перад намі апавяданне на сацыяльную тэматыку, прысвечанае цяжкаму жыццю эмігрантаў? Але ніякіх побытавых падрабязнасцей «нямецкага» жыцця ў творы няма. У адным з эпізодаў Маргарыта толькі канстатуе, што жыве пасля разводу бедна, таму вымушаная перыядычна падманваць кліентаў.

Асобныя штрыхі апавядання дазваляюць меркаваць, што А. Брыт зрабіў спробу абыграць некаторыя вобразы рамана «Майстар і Маргарыта». Напрыклад, бармена клічуць Бегемотам, дзеянне адбываецца ў кавярні «Voland», а джаз-бэнд грае тэму з Гектара Берліёза (герой булгакаўскага твора мае тое ж прозвішча, што і кампазітар XIX стагоддзя). Але такія паралелі не заўсёды пераконваюць. Маргарыта сустракаецца з кінапрадзюсарам Ліхадзіеўскім (дагэтуль яны бачыліся толькі аднойчы). Іх размова азмрочваецца той акалічнасцю, што гераіня аблічыла яго ў кавярні. Але, даведаўшыся, што Маргарыта марыць займацца кінарэжысурай, прадзюсар вырашае пазнаёміць яе не больш і не менш як з Кустурыцам. Акрамя таго, адразу ж высвятляецца, што героі блізкія духоўна і ўсё жыццё шукалі менавіта адно аднаго.

Магчыма, А. Брыт праводзіць яшчэ адну паралель з М. Булгакавым, калі Ліхадзіеўскі ўспрымаецца як Майстар? Але такая інтэрпрэтацыя выглядае крыху штучнай. Калі ўспрымаць такі ход як звычайнае развіццё асабістых узаемаадносін, дык ён ніяк не абгрунтаваны. Марай пра прафесію можна было б расчуліць паэта-рамантыка. Але рашэнне кінапрадзюсара, які распараджаецца вялікімі грашыма, больш нагадвае казачны «хэпі-энд». Зрэшты, падзеі адбываюцца на Раство Хрыстова, таму цуды магчымыя.

Адметнымі матэрыяламі разглядаемага «Нёмана» сталі публікацыі, прысвечаныя 70-годдзю з дня нараджэння выбітнага айчыннага рэжысёра Міхаіла Пташука. У нумары змешчаныя ўспаміны Раісы Баравіковай «Неба Міхаіла Пташука», а таксама маналогі вучняў рэжысёра Андрэя Голубева, Яўгена Сяцько, Максіма Субоціна і Людмілы Дуброўскай. У свой час з цікавасцю чытаў споведзь Пташука «І плач, і слёзы», а таксама ўспаміны яго калег і сяброў, што выйшлі пад адной вокладкай у серыі «ЖЗЛБ». Вартасць «нёманскіх» публікацый у тым, што яны дадаюць новыя штрыхі да творчай асобы Пташука. А яшчэ нібы падштурхоўваюць зноў звярнуцца да яго кінематаграфічнай спадчыны.

«Синема, синема, синема, от тебя мы без ума», — спяваў Андрэй Міронаў у фільме «Чалавек з бульвара Капуцынаў». У студзеньскім «Нёмане» кожны можа выбраць сярод «кінематаграфічных» публікацый тыя, якія адпавядаюць яго густу.

# Канфлікт з рэчаіснасцю




**Алена КАРП**

Першы нумар «Маладосці» прэзентуе чытачу багатую літаратурную частку, прадстаўленую вялікай колькасцю імёнаў, вядомых і пакуль не вельмі. Мы ж спынім сваю ўвагу на некалькіх празаічных творах.

Жанна Каралёнак, новы для «Маладосці» аўтар, піша пра тую патрыярхальную вёску, якая ўжо адышла ў нябыт. Вёску з зацятымі характарамі, зламанымі лёсамі і сакраментальным «Волька завіхалася ля печы». Падаецца, што крыніцай натхнення для апавядання «Калі сэрца не спявае...» магла быць Брылёва «Галя». Прынамсі, блізкая не толькі тэматыка, а і манера пісьма, імпрэсіяністычная, з акцэнтам не столькі на дзеянне, колькі на эфект, эмоцыю, якую яно стварае.

Другі твор, «Калядніца», больш прыземлены, тут фіксуюцца дэталі вясковага побыту, праявы традыцыйнай культуры. Фіксуюцца старанна і падрабязна. Марна чакаць развіцця дзеяння ці адметных, выразных характараў (дзед Адам — тыповы вобраз мудрага старога, Волька — звычайная вясковая руплівіца), трэба простаназіраць за гэтым жыццём, знаходзіць у ім прыгажосць і прыслухоўвацца да маралі, якая напрыканцы становіцца ўсё больш настойлівай.

Васіль Гігевіч у апавяданні «Цёмная вада», наадварот, пакідае месца для недагаворанасці, шматкроп'яў і спроб чытача «звязаць» сюжэт. І гэта вельмі дарэчы, бо гаворка ідзе пра чалавечыя стасункі, тое «нябачна-цягучае, што... яднае людзей», пра тое, што немагчыма спасцігнуць цалкам. Недзе ў падтэксце — немагчымасць шчасця і той настрой, пра які Алесь Пісьмянкоў пісаў: «У мяне не настальгія — проста сум па чысціні». Затое даволі гучныя нараканні ў бок сучаснага грамадства, у тым ліку і моладзі, што ўжо стала ледзь не традыцыяй для многіх аўтараў старэйшага пакалення. Як следства, супрацьпастаўленне цывілізацыі прыродзе, зразумела, не на карысць першай: «Ціха-ціха было як у наваколлі, так і ў душах людскіх, — немаведама куды адмяталіся: праца і гарадскі тлум, крыклівая настырная рэклама, якая жыцці вучыла, — адмяталася ўсё, што цывілізацыяй называлася, і ў гэтай рэлікtавай цішыні рыбакі адчувалі далучанасць да невядомага жыцця...»

Той жа канфлікт паміж прыродай і цывілізацыяй, натуральным жыццём на ўлонні прыроды і жыццём унутры соцыуму, заўважны і ў апавяданнях Васіля Ткачова: «Цікава, — разважаў ён, — пчала, уджаліўшы чалавека, гіне, а чалавек, уджаліўшы чалавека, жыве і радуецца-пацяшаецца... на сёмым небе ад шчасця...» Маральная праблематыка найбольш займае пісьменніка, і ў кожным апавяданні ён выбудоўвае свой этычны ідэал. Часам ён выглядае занадта саладжавым, гіпербалізаваным, але, магчыма, мастацкі свет, які трымаецца пераважна на канфлікце паміж дабром і злом, белым і чорным (падзел даволі выразны і недвухсэнсоўны), якраз такога героя і вымагае. Прынамсі, сам аўтар ставіцца да сваіх станоўчых персанажаў са шчырым замілаваннем.

У апавяданні Навума Гальпяровіча «Хоча быць вашым сябрам...» найбольш цікавай падаецца думка пра механічнасць, скажонасць зносін у сацыяльных сетках («Вы сапраўды хочаце выдаліць Паліна Акінчыц?»).

Так званы «запыт сяброўства» ад былой каханай становіцца для героя нагодай згадаць свае няўдалыя раманы. Як ні дзіўна, аўтар абыходзіцца без паўнавартасных жаночых вобразаў. Алена, Паліна — толькі цені. Іх функцыя — быць прыгожымі і ў патрэбны момант здраджваць, каб тым самым вярэдзіць душу героя. Зрэшты, і сам лірычны герой не раскрываецца настолькі, каб можна было дакладна адказаць, чаму ён не паспрабаваў вярнуць сваё шчасце, спыніў яго рахманыя вочы жонкі (дарэчы, паслухмяная жонка ў нашай прозе ўжо ледзь не архетып, настолькі часты гэты вобраз і, на жаль, аднолькава бляклы), маральныя прынцыпы, зняверанасць ці пасіўнасць натуры.

Наўрад ці згаданыя апавяданні сталіся вялікім крокам наперад у творчасці іх аўтараў, але яны сумленна выконваюць сваю рэпрэзентатыўную функцыю, асабліва для тых, хто ўпершыню адкрые для сябе прадстаўленых пісьменнікаў.

Міхась ПАЗНЯКОЎ



# З турэцкага сшытка

Летам 2012 года я ўзначальваў пісьменніцкую дэлегацыю з васьмі чалавек, якая наведала з пяцідзённым візітам культурную сталіцу Турцыі — горад Стамбул. Шматлікія сустрэчы, прыёмы, знаёмствы, перамовы, прыемныя ўражанні назаўсёды застануцца ў нашых сэрцах. Вядома, нарадзіліся і вершы, частку якіх я і прапаную ўвазе чытачоў штотыднёвіка.

## На ўзгорку Чамлыджа

*Тут, на вяршыні горада,*
*Захоплівае дух.*
*Мяне ад шчасця гордага*
*Лагодзіць ветрык-зух.*

*Удалечы на беразе*
*Паланіць відарыс.*
*Наўзбоч зялёным ветразем*
*Шугае кіпарыс.*

*Дамамі, нібы птушкаю,*
*Аблеплена града,*
*Пад імі ўеца стужкаю*
*Лазурная вада.*

*Мячэці ў небе свечкамі*
*Узвысілі прастор,*
*Дзе з гмахамі сінечымі*
*Зліваецца Басфор.*

*І гэтак супакойліва*
*Між велічы святой,*
*Што ўвесь свячуся гойліва*
*Акрыленай душой.*

## Рынак Капалы

*Тут — шчырае сэрца Стамбула,*
*Якое не знае цішы.*
*Паланіць ажыўленым гулам*
*Рынак Капалы Чаршы.*
*З бясконцых вітрынаў, здаецца,*
*На ўвесь неахопны абшар*
*Тут золата звонка ліецца.*
*Баль правяць турыст і гандляр.*

*Кераміка, онікс і срэбра...*
*І рэчаў не менш як мільярд —*
*На памяць, капрыз ці патрэбу,*
*Валюта, антыкварыят...*

*Тут самыя розныя мовы*
*Становяцца мовай адной,*
*І свет гэты ўвесь адмыслова*
*Ніякай не змераць цаной.*

## Стамбулу

*Зноўку сніцца мне сіні Басфор,*
*Цеплаходаў заманлівы гул,*
*Шматгалосы вячэрні Стамбул*
*У абдымках мячэцяў і зор.*

*Сніцца востраў, дзівосны, як сон,*
*Мармуровага мора блакіт,*
*Ахінае пяшчотай які,*
*Забірае ў салодкі палон.*

*Па зямлі векавечнай, святой*
*Там хадзіў я, узрушаны госць,*
*І жывую ўбіраў прыгажосць,*
*І мудрэў трапяткою душой.*

*І мацней, і глыбей адчуваў,*
*На памежжы эпох і культур,*
*Тваю веліч, магутны Стамбул,*
*Векавая калыска дзяржаў.*

## У Мармуровым моры

*Мне не забыць жывых дзівосаў*
*У Мармуровым звонкім моры,*
*Дзе, быццам ветразь, светлы востраў*
*Сустрэў між сіняе прасторы,*

*Дзе гойна музыка лунала,*
*Нібы яе агучваў Божа,*
*І з морам сонечным яднала,*
*Як аніхто яднаць не можа.*

*Дзе сэрца чайкай белакрылай*
*У неба высака ляцела*
*І там ад шчасця галасіла,*
*І ў хвалі кінуцца хацела,*

*Каб імі цешыцца дасхоты,*
*Сум разбіваючы дазвання —*
*Над дзіўным востравам пяшчоты,*
*У вечнай музыцы кахання.*

## Горад на Басфоры

*Звонкі вечар плыве над Стамбулам,*
*Неба грае маністамі зор,*
*І яму адгукаецца чула*
*Залатымі агнямі Басфор.*

*Слаўны горад, святая калыска,*
*Я з табой не сустрэцца не мог.*
*Я гляджу ў твае вочы так блізка*
*І чытаю скрыжалі эпох.*

*Захапляюць палацы, мячэці,*
*Паркі, прыстані і караблі...*
*Ты сяброў вельмі рады прывеціць*
*На сваёй блаславёнай зямлі.*

*Запрашаюць музеі, выставы,*
*Рынкі, крэпасці, плошчы, сады...*
*Сімвал часу, культуры і славы,*
*Старажытны ты і малады.*

*І я радасна ў сэрца ўбіраю*
*Хараство і дыханне вякоў,*
*І часцінку душы пакідаю,*
*Каб аднойчы прыехаць ізноў.*



*Фота Кастуся Дробава*

Аксана ЯРАШОНАК



**Цыкл вершаў «Слухаць вечнасць» прысвячаю Алесю Пісьмянкову**

## Да Дня нараджэння

*Ваш люты на зямлю*
*прыляжа снежна,*
*Мароз расквеціць*
*барвай небакрай...*
*Прымроіцца ласкавая*
*усмешка,*
*Пачуецца аднекуль:*
*«Не знікай!»*

*А недзе Бесядзь уздыхне*
*са скрухай,*
*Тужліва прыпыняючы*
*свой бег...*
*Ляцяць да Вас сняжынкі*
*лёгкім пухам*
*Адтуль, дзе «самы белы*
*ў свеце снег».*

## У Бялынкавічах

*Бялынкавічы. Спыніцца маршрутка.*
*З прыступак я саскочу долу хутка*
*І пастаю крыху пад сціплым сонцам*
*На той зямлі, што нараджае*
*творцаў.*
*Нагбом нап'юся я хваёвых пахаў,*
*Што клікалі да Вашых родных дахаў*
*І шчодра да апошняга імгнення*
*Дарылі Вам адхланне і натхненне...*

*Ну вось і ўсё, што тут зрабіць*
*павінна.*
*Паспець бы мне. Стаянка*
*тры хвіліны.*

* * *

Люты ў валёнкі абуты,
Апрануты люты ў кажух.
Люты спрабуе на лютні
Апошні акорд завірух.

**Алесь Пісьмянкоў**

*Люты назву сваю прыгадай:*
*Завіхурыў, задзьмуў, прымарозіў.*
*У сумётах і сцежка, і дах.*
*Вось такая зімовая проза.*

*Ды надарыцца сонечны дзень,*
*Ён пакліча прабегчыся пешшу,*
*На каўнерык сняжок пакладзе*
*І усцешыць напісаным вершам.*

## Туды

*Кляновы ліст кранае плечы,*
*Шуміць узбуджаны праспект,*
*А я спрабую слухаць вечнасць,*
*Як слухаў некалі Паэт.*

*Ды гул аўтобусна-трамвайны*
*Чамусьці прытупляе слых.*
*І я ізноў бягу адчайна*
*Ад тлумных вуліц гарадскіх*

*Туды, дзе водар свежай мяты*
*Глыткамі прагнымі лаўлю.*
*Бабулін сад. Сцяжынка. Хата.*
*«Я не памру,*
*пакуль люблю!»*

## На Кальварыі

*Сталіцу зіма засыпае*
*Мільёнамі лютаўскіх зораў.*
*Кальварыя ў вечным адчаі*
*Душу напаўняе мінорам.*
*Трывожыцца мройная замець.*
*Між помнікаў крочу няспешна...*
*А побач сняжынкі лунаюць*
*Радком недадуманых вершаў.*

Валянціна ЯФІМАВА



## Беларуская хата

*Беларуская хата, ад прадзедаў хата,*
*Мая лепшая памяць заўсёды з табой.*
*Пад страхой саламянай была небагатай,*
*Ды багата набожнасцю, светлай душой.*

*З мэблі — лава і стол.*
*Калаўрот яшчэ, кросны*
*І ручнік вышываны на хлебнай дзяжы.*
*Дом сялянскі — ён сціплы, няхітры і просты,*
*Ды такі непаўторны, такі дарагі.*

*Калі госць на парог, то заходзь, калі ласка!*
*Пагрэй рукі ля печкі, кваску пакаштуй,*
*Яшчэ поліўкі, бульбы*
*з духмяным прыгаркам,*
*Агурочкаў, грыбкоў паспрабуй —*
*не ганьбуй!*

*Беларуская хата — радзіны, вяселлі*
*І застольныя песні прастору раўня.*
*Тут кумы, і сваты, і суседзі паселі,*
*І гаворка цячэ аж да новага дня.*

*Беларуская хата — найлепшая хата.*
*Паўтараю я гэта ізноў ды ізноў,*
*Бо з яе прараслі, нібы жыта зярняты,*
*Беларуская Шчырасць, Спагада, Любоў.*

* * *

*Абудзілася першай вярба*
*Ад салодкага сну напрадвесні,*
*Каб пад срэбраны звон раўчука*
*Заспяваць адраджальную песню.*
*Песню-гімн калаўроту-жыццю*
*З пажаданнямі новай надзеі,*
*Каб у сэрцы святлець пачуццю*
*Разам з радасцю Вербнай нядзелі.*

* * *

*Мая Радзіма,*
*мая Радзіма,*
*Ўзыходзіць сонца,*
*звіняць лугі,*
*І лес тут дзіва,*
*азёры дзіва,*
*Мой край блакітны,*
*мой дарагі.*
*Мая старонка,*
*куточак родны,*
*З ільном і жытам*
*наўкол палі,*
*Дзе чутны ветру*
*напеў лагодны,*
*Дзе васількова*
*вянок сплялі.*
*Вянок Купалля,*
*вянок кахання,*
*На хвалях Мястра*
*удаль плыві,*
*Каб кожны вечар*
*было спатканне,*
*Каб мы тут шчасце*
*з табой знайшлі.*
*Мая сцяжынка,*
*мая расінка,*
*Глыток крынічнай*
*святой вады,*
*І каля ганка*
*мая рабінка*
*У Мядзел кліча*
*мяне заўжды.*

* * *

*А песня слаўная была —*
*Вясёлая і звонкая,*
*Бярозкі слухалі яе,*
*Галінкі гралі тонкія.*

*А песня сумная была*
*З жыцця таго далёкага,*
*Сцякалі кропелькі з вачэй*
*Званочка сінявокага.*

*А песня матчына была.*
*Была? І ўсё ж не верыцца,*
*Што аблачынкай адплыла,*
*Вярнуць бы, ды не вернецца.*

Іван КАНАНОВІЧ

# А коні — скачуць...

## *Апавяданне*



Вайна, пра якую нечакана пачулі дзеці і дарослыя з хрыпатага рэпрадуктара на калгаснай канторы, неўзабаве дакацілася да вёскі...

Ціхім летнім надвячоркам па брукаваным гасцінцы, адмыслова выкладзеным некалі палоннымі аўстрыйцамі, бясконцай змяёй поўз з захаду нямецкі абоз. На ёмістых параконках, нагружаных траха не да неба ваеннымі прычындаламі, сядзелі ўзброеныя чужынцы ў нязвыклай, мышынага колеру, форме і на губных гармоніках бесклапотна і весела выціналі не зразумелыя нікому мелодыі.

Вялізныя сытыя біцюгі з коратка падстрыжанымі грывамі, фырхаючы ад смагі густой пенай, высякалі ў паўзмроку сталёвымі падковамі іскры, лёгка, не ўпінаючыся, імкнуліся ў невядомасць, як няпрошаныя госці. Вяскоўцы жахнуліся: немцы! Цікаўцаў з гасцінца быццам ветрам змахнула — пахаваліся ў хатах, як у старажытных замках.

На прасторнай лаўцы застаўся толькі дзед Васіль у палапленым, незвычайнага колеру, гусарскім фрэнчы з часоў руска-турэцкай вайны, упрыгожаным Георгіеўскімі крыжамі. Падчас царскай службы пабачыў розных чужынцаў — баяцца яму не было чаго. Побач унук Васілька бавіўся у гурце вясковай малечы. А ў малечы цікавасць перамагла страх. Унук ад убачанага ўпершыню здзівіўся:

— Дзеда, якія ў іх вялікія і сытыя коні!

— Гэта, унучак, еўрапейскія біцюгі, — растлумачыў удзельнік бясконцых войнаў, — надта дужыя і цягавітыя, на іх колькі хочаш грузі — павязуць.

Абоз скіраваўся з гасцінца на прасторны выган. З пярэдняй падводы рухава саскочыў афіцэр і ўладарна, як гаспадар, спытаўся:

— Где есть вассэр, колодца?

— Вады ў нас хапае, — нязмушана і пераканаўча, выслізганай да алмазнага бляску кавенькаю, паказаў дзед няпрошаным гасцям кірунак да дубовага, замшэлага за стагоддзі зруба, каля якога ў бяздонным, аплеценым зялёным мохам карыце плёхаліся вясковыя качкі.

У коней ад няблізкай дарогі і спёкі даўно выехалі цёнглі, а ў бесклапотных падводчыкаў спаражніліся баклажкі.

*Фронт імкліва рухаўся на захад, адкуль не так даўно сытыя біцюгі напорыста праставалі да невядомай мэты. Тых вайскоўцаў-абознікаў не стала — не праязджалі па гасцінцы. Засталіся толькі на калгаснай пляцоўцы параконкі на высокіх колах, а ў загарадзі — худыя, адна скура ды рэбры, карослівыя біцюгі, якіх аднекуль здаля прыгналі ў галодную пасляваенную вёску. Яны на франтавых дарогах пагублялі сталёвыя падковы і страцілі былы форс. Стаялі ў загарадзі, сумнымі, спакутаванымі вачыма глядзелі на людзей, быццам прасілі паратунку.*

Біцюгі і вайскоўцы рынуліся наталяць смагу і пілі да тае пары, пакуль не асушылі дзедаў і суседнія калодзежы. Напаследак начальнік абозу пачаставаў дзеда чужаземнай цыгаркаю, упэўнена і рашуча махнуў на ўсход:

— Мы паехаль дальшэ, нах Москаф.

— Глядзі, браце, каб коні твае ў дарозе не прытаміліся і коламазі для параконак хапіла — назад жа давядзецца ўцякаць, — папярэдзіў наўздагон няпрошаных гасцей дзед, і голас яго патануў у грукаце незлічоных падвод і аднастайным цоканні падкоў.

Як толькі абоз схаваўся за лесам і пагрукатаў далей, няўрымслівы ўнук запытальна зіркнуў на старога:

— А яны, дзеда, яшчэ вернуцца?

— Нягож не, куды ім яшчэ дзявацца, не векаваць чужынцам на нашай зямлі. Многа розных злыдняў па гэтым гасцінцы фарсіста шпарылі да Масквы, ды кожнага разу змушана, без аглядкі, беглі туды, адкуль і прыйшлі, — агідна сплюнуў і растаптаў ботам нямецкую цыгарку дзед.

Васілёк пільна пазіраў на хвост бясконцага абозу, захапляўся:

— Коні, дзед, у немцаў надта сытыя, далёка заедуць.

— Сытыя коні, унучак, няўзнак худзеюць, — гаротна ўздыхнуў старажыл, быццам пашкадаваў дужых балаголаў.

— Твае, дзеда, коні хоць і не такія сытыя, а як асядлаеш і сцебанеш дубцом — імчаць галопам, аж вецер у вушах свішча, — уражаны толькі што ўбачаным, не сунімаецца малы і выдае сваю таямніцу: — От бы мне на такім балаголе пагарцаваць — во была б пацеха.

Дзед з хвіліну маўчаў, задуменна звузіўшы выцвілыя ад старасці вочы, пыхкаў люлькаю, пэўна, уяўляў, як унук, прыходзячы на канюшню, кожнага дня сядлаў маладую жаробку і гнаў коней на прасторны луг. І душа старога гусара ў такія хвіліны поўнілася шчымлівай радасцю. Расфайкаваў піпку і кажа:

— Пагарцуеш, унучак, у цябе жыццё наперадзе.

...Бліскавіцаю прамільгнуў час. Фронт імкліва рухаўся на захад, адкуль не так даўно сытыя біцюгі напорыста праставалі да невядомай мэты. Тых вайскоўцаў-абознікаў не стала — не праязджалі па гасцінцы. Засталіся толькі на калгаснай пляцоўцы параконкі на высокіх колах, а ў загарадзі — худыя, адна скура ды рэбры, карослівыя біцюгі, якіх аднекуль здаля прыгналі ў галодную пасляваенную вёску. Яны на франтавых дарогах пагублялі сталёвыя падковы і страцілі былы форс. Стаялі ў загарадзі, сумнымі, спакутаванымі вачыма глядзелі на людзей, быццам прасілі паратунку.

Той пасляваенный зімой у бяскорміцу і нястачу Васілёк сядзеў каля акна і глядзеў, як дзед Васіль, асядлаўшы вёрткага нізкарослага мангола, выганяе з загарадзі худых небаракаў і турыць на вадапой да таго самага калодзежа, з якога, здавалася яму, зусім нядаўна гэтыя прыгожыя і сытыя коні, бесклапотна бразгаючы цуглямі, наталялі смагу. Цяпер яны, высільваючыся, ледзь клыпалі і кожнага дня адзін ці два млява падалі і больш не ўставалі.

Пасля вадапою дзед прыводзіў з канюшні двух рухавых манголаў, чапляў пастронкамі акалелых небаракаў і цягнуў у недалёкі яловы лес Закапліччa на конскія могілкі.

Уначы там, насуперак завеі, на ўсю ваколіцу жаласна і працяжна вылі адкормленыя ўдосталь ваўкі, быццам у нечым спагадалі сваім ахвярам ці вінаваціліся перад імі.

А Васілёк у такі час ляжаў на цёплай печы, слухаў нудотнае выццё і ціха плакаў — шкадаваў коней. А як засынаў, яму снілася лета, неабсяжны квяцісты луг, на якім скачуць вясковыя коні, дагледжаныя дзедам, і тыя гаротнікі-біцюгі, знішчаныя вайною і ваўкамі...

Не стала дзеда Васіля на сто пятым годзе жыцця. Пакінуў ён у спадчыну сваёму ўнуку Васільку, якога па-дзіцячы ласкава завуць вяскоўцы, калгасных коней, пісаны алеем партрэт бравага гусара, баявыя ўзнагароды за храбрасць і адвагу — Георгіеўскія крыжы. У прасторнай дзедавай хаце яны месцяцца на покуці пад абразамі на чырвонай стужцы, выпраменьваюць шчырасць і ласку дзедавай душы...

Неўпрыкмет і ён, Васілёк, увіхаючыся на канюшні, сам стаў дзедам. Кожнае лета яго гарадскі ўнук-цёзка — тут як тут — зранку да вечара каля коней: то на вадапой гоніць, то на пашу. Дзіва і толькі: пачне адзяваць аброць — коні паслухмяна галовы нахіляюць, а жарабяты на пашы, як за павадыром услед ходзяць, забаўляюцца.

Раніцай, не паспее ўзысці сонца, Васілёк шмыг з-пад коўдры, па-вайсковаму будзіць гаспадара:

— Пад'ём, дзядуля, пара коней выганяць на пашу.

Той квола ўстае і раіць непаседу:

— Няхай баба Наста сняданак збярэ.

Унук з гонарам паказвае схаваную за спінай торбачку з бабулінымі прысмакамі, прыспешвае:

*— Нягож не, куды ім яшчэ дзявацца, не векаваць чужынцам на нашай зямлі. Многа розных злыдняў па гэтым гасцінцы фарсіста шпарылі да Масквы, ды кожнага разу змушана, без аглядкі, беглі туды, адкуль і прыйшлі, — агідна сплюнуў і растаптаў ботам нямецкую цыгарку дзед.*

— Даўно сабрала, хадзем хутчэй... коні згаладаліся за ноч.

Не паспела сонца выкаціцца з-за лесу, а Васілёк з дзедам путаюць коней на лузе. Тыя гучна скубуць сакавітую, затуманеную расой траву, а пастухі раскладваюць вогнішча. Як агонь добра ўгарэўся, старанна рыхтуюць сняданак — смажаць абгорнутыя ў паперкі з Васількавага сшытка кавалачкі сала на лазовых прутках. Духмяны пах смажаніны апетытна расцякаецца наўкола. Пастухі няспешна вядуць гаворку. Унук, як заўжды, распытвае пра свайго прадзеда-гусара, яго ўзнагароды, і цікавіцца, дзе бравы гусар ваяваў. І дзед успамінае расповеды былога гусара пра Руска-турэцкую вайну, пра ордэны і шаблю з імяннай царскай гравіроўкай. Шабля тая, падараваная царом, прапала падчас вайны — паліцаі забралі. Васільку, вядома, шкада славутай шаблі, і ён гаротна ўздыхае:

— Давай, дзядуля, пададзім заяву ў міліцыю — няхай пашукаюць даўнейшую рэліквію і, дай Бог, знойдуць — во будзе гонару нашай вёсцы.

— Хадзіў я і ў сельсавет, і ў міліцыю, ездзіў да абласных начальнікаў — усе толькі спачувальна ўздыхаюць, — няёмка апраўдваецца стары і ўздыхае: — У паліцаяў, як ішла вайна, нашу шаблю, пэўна, немцы адабралі і ў Нямеччыну звезлі.

Апетытна ўплятаючы задымленыя шкваркі з лазовага ражна, Васілька, узвіхураны ўспамінамі пра шаблю, абнадзейвае старога:

— Як скончацца канікулы і паеду ў горад — пашукаю па інтэрнэце, там можна шмат чаго знайсці, — твар унука засвяціўся радасцю.

Ад шчырай гаворкі з унукам распрасталіся глыбокія зморшчыны на дзедавым твары, і дзед азадачвае свайго гарэзу:

— Пашукай, пашукай, даражэнькі мой, па сваёй тэрнэце нашу шаблю — дасць Бог, знойдзеш, — пускаючы па лузе пахкі дым з піпкі, дзед пытаецца: — Ты неўзабаве школьную навуку пройдзеш, куды далей будзеш падавацца?

Васілёк адхінаецца ад зыркага вогнішча, глядзіць на коней і заўважае, што некаторыя падаліся на пшанічнае поле. Гаворыць дзеду:

— Зганяю, адвярну ад шкоды, — і жвава мчыць на край пшанічнага поля, пагрозліва страляючы хлёсткай пугаю.

Праз хвіліну вяртаецца, сядае поруч з дзедам на духмяную капу сена, працягвае распачатую гаворку пра будучую прафесію:

— Ты, дзядуля, у мяне пра гэта і летась, і пазалетась пытаўся, нават тады, калі я ў школу не хадзіў, — шчыра ўсміхнуўся ўнук, расчулены знаёмым пытаннем, і кажа: — І наша настаўніца неяк пацікавілася пра маю будучыню, дык я ёй так і сказаў, што прыеду да цябе ў вёску коней даглядаць.

— А што настаўніца параіла? — усмешліва здзіўляецца ўнукавай задуме стары і тлумачыць: — Твае аднагодкі з вёскі, прыходзячы на канюшню, хваліліся мне, што будуць лётчыкамі, касманаўтамі, маракамі, бізнесменамі, а ты — конюхам? Тут вялікай навукі не трэба.

Васілька ўважліва выслухаў дзедавы развагі, запярэчыў:

— Дзядуля, мяне настаўніца за абраную прафесію пахваліла, параіла на адны пяцёркі вучыцца, бо коней цяпер у вёсках мала, могуць і зусім звесціся, а я іх дагледжу.

— Не звядуцца, — лагодна пераконвае калгасны ветэран унука. — Бачыш, якія спраўныя нашы маладыя жаробкі — напрыводзяць жарабят колькі трэба.

— Дык я іх дагледжу, — запэўнівае старога абраданы ўнук.

Уражаны ягонай упартасцю, стары нервова пераграбае галавешкі ў вогнішчы і не можа ўявіць сабе яго будучыню.

А той, як бы здагадаўшыся пра дзедавы думкі, распараджаецца:

— У цябе, дзед, багата маладых коней. Іх зімой у санях навучаць будзем, як на канікулы прыеду, вунь з той каштанавай жаробкі пачнем, — паказвае ён на маладую, белагрывую кабылу.

Дзед не пярэчыў, слухаў развагі ўнука пра будучыню, радаваўся ў душы — во які малайчына расце ў іх родзе, адыстар у прадзеда-героя ўдаўся.

У задушэўнай гамонцы непрыкметна прамільгнуў час — сонца ўзнялося ў зеніт і пачало прыпякаць. Луг дыхнуў суквеццем траў, гучаў пераразвонам чмялёў, пчол, трымценнем конікаў і пагрозлівым зумканнем аваднёў. Дзед прысланіў далонь да вачэй, глянуў на зыркае, пякучае сонца, загадаў:

— Абед пачынаецца, пара на канюшню.

Васілька распутвае коней, сядлае свайго любімага гнядога і, страляючы пугай у паветры, накіроўвае дзедаў табун на вадапой.

# Дзень роднай мовы

## Тое, што нас звязвае

**Алег ТРУСАЎ,**
**старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны**

У многіх народаў — нацыянальнасць па маці. Мы, беларусы, вядзём свой род ад Еўфрасінні Полацкай, ад Рагнеды, і нашы маці захавалі мову, співаючы нам калыханкі. А сёння мне часам вучні пішуць лісты пра тое, што іх настаўніцы беларускай мовы і літаратуры па-за ўрокамі не гавораць па-беларуску.

Я ўпэўнены, што галоўная задача кожнага чалавека — гэта, па-першае, самому карыстацца мовай паўсюдна, а па-другое — нікога не прымушаць. Няхай з табой гавораць так, як хочуць, галоўнае — ты сам гавары па-беларуску. І будзе да цябе павага, а той чалавек, можа, сам праз год-два пяройдзе на беларускую. Мае вучні таксама напачатку карысталіся выключна рускай мовай — я нікога не прымушаў, але так склалася, што праз год, а хто праз пяць, усе яны прыйшлі да роднай мовы і сёння нават самі не вераць у тое, што калісьці было інакш.

Сам я закончыў рускую школу. У пашпарце ў мяне было запісана «рускі». На беларускую пераходзіў два гады (1980 — 1982) — гэта было надзвычай складана на той час. Толькі зразумеўшы гісторыю краіны, дазнаўшыся пра свае карані, усведамляем, наколькі важна ведаць сваю мову.

За дваццаць год незалежнасці беларуская мова стала мовай эліты — яе вучаць нават замежнікі перад тым, як наведаць нашу краіну. І яшчэ адзін плюс: у Беларусі мову разумеюць усе — могуць не ведаць асобныя словы, але разумеюць! Мова — вось што нас звязвае. Калі страцім мову — рассыплемся, як старажытныя рымляне... Павага да мовы ў беларусаў жыве ўнутры, а пачынаецца ўсё з усведамлення таго, што без мовы не будзе нас.

## *З пошты «ЛіМа»*

**Ірына РУДКОЎСКАЯ:**
— Ва ўсім свеце мы, мабыць, адзіная краіна, якая ўвяла дзяржаўнае свята — Дзень беларускага пісьменства. Здавалася б, радуйся, беларус! Родная мова два дні ў ролі прынцэсы! Але ж асаблівасць свят у тым, што яны хутка праходзяць.

А яе ж паўсядзённае месца — быць паўнапраўнай гаспадыняй у сваёй хаце: у дзіцячых садках і школах, у кабінетах, на тэлебачанні, радыё, у СМІ...

Хочацца прапанаваць усім пачаць з сябе.

**Леанід ЛЫЧ:**
— Даволі часта даводзіцца сустракацца з меркаваннем, што ў аснове сучаснага стану беларускай мовы ляжыць непадуладная волі чалавека аб'ектыўная, гістарычная заканамернасць. Але калі гэта так, то нам тады нічога не трэба рабіць дзеля выпраўлення становішча. Так, маўляў, гістарычна склалася — і баста!

Многія ўжо не адзін дзясятак гадоў аплакваюць «пагібель» беларускай мовы. Дык мо ўжо час перайсці ад плачу Яраслаўны да падключэння розуму ўсяго народа дзеля пошукаў надзейнага шляху захавання роднага беларускага слова?

Я не бачу больш адказнай, больш важнай для краіны, усёй нацыі справы.

Ход абмеркавання павінен, на маю думку, весціся на старонках газеты «Літаратура і мастацтва» як перыядычнага органа творчай інтэлігенцыі. Дарэчы, гэтай газеце ўжо двойчы даводзілася ўзнімаць дадзеную праблему: у канцы 1950-х гадоў, калі бацькам далі права выбіраць мову навучання сваіх дзяцей у школах, дыскусія пачалася з ініцыятывы яшчэ зусім маладога беларускага пісьменніка Барыса Сачанкі. Другое франтальнае абмеркаванне моўнага пытання прыпала на гады перабудовы. Аўтар гэтых радкоў таксама браў актыўны ўдзел у тагачаснай дыскусіі.

## Экзамен па матэматыцы. Па-беларуску

**Сымон БАРЫС**

Сярэднюю школу я скончыў у Вілейскім раёне, а ў жніўні 1957 года здаваў экзамены ў Ленінградскім пажарна-тэхнічным вучылішчы МУС. Мне давялося здаваць матэматыку вусна і пісьмова. Першы іспыт быў пісьмовы, а другі — праз дзень — вусны. Я пагартаў рускія падручнікі і заўважыў, што матэматычныя тэрміны не супадаюць з беларускімі. І запомніць іх і ўсе правілы за некалькі гадзін (нават калі не спаць усю ноч) я не змагу. І тут адзін абітурыент падказаў мне, што ў Савецкім Саюзе пры паступленні ў сярэднія спецыяльныя і вышэйшыя навучальныя ўстановы можна здаваць экзамены на нацыянальнай мове сваёй рэспублікі. Навучальныя ўстановы прадастаўляюць перакладчыкаў. Ён нават паказаў мне, дзе пра гэта гаворыцца ў даведніку для абітурыентаў.

Калі мне давялося адказваць на пытанні білета, дык я, стоячы каля класнай дошкі, так і заявіў: «Я скончыў беларускую школу амаль на выдатна, але па-руску здаць матэматыку не магу. Не супадаюць тэрміны. І я маю права здаваць па-беларуску». Экзаменатары не з радасцю прынялі маю заяву, аднак сказалі: «Перакладчыка мы шукаць не будзем, але выслухаем. Будзеш сам нам перакладаць. Кожнае правіла праілюструеш прыкладамі і патлумачыш тэрміны». Давялося кожнае правіла паўтараць двойчы. Яны хацелі пераканацца, што я сапраўды гавару правільна. І тут, нарэшце, я экзаменатарам здзівіў: «А я ніколі правілы па матэматыцы не вучыў, але магу рашыць любую задачу ў задачніку, а калі рашу, дык скажу вам і правіла». Настаўнікі пацікавіліся маімі адзнакамі ў атэстаце і спыталі, чаму я не паступаў у беларускі ўніверсітэт.

— А хто мяне туды прыме з вёскі, з калгаса? — адказаў я. — Можа, мае веды горшыя, чым у гарадскіх выпускнікоў.

— Ты апраўдваеш адзнакі, што ў тваім атэстаце. Мы ставім табе пяцёрку. Можна было і па пісьмовым экзамене паставіць «выдатна». Шкадуем цяпер, што ўчора мы паставілі табе «добра», але цябе ў пажарна-тэхнічнае вучылішча прымуць. Дык няўжо ты хочаш стаць пажарнікам з такімі ведамі? Мы табе не раілі б. Паступай ва ўніверсітэт або ў інстытут, ты зможаш. Атрымай вышэйшую адукацыю.

Мае бацькі змалку прывучылі мяне слухаць парады настаўнікаў. Здаўшы ўсе экзамены і пераканаўшыся, што ў Рускасельскай сярэдняй школе Вілейскага раёна ўсе адзнакі мне выставілі заслужана, так што я магу апраўдаць іх і ў Ленінградзе, прымаю рашэнне ў пажарнае вучылішча не паступаць. Таму я пайшоў служыць у войска, а пасля скончыў педагагічны інстытут.

## Пухавіцкі коласазнаўца

**Спаўняецца 75 гадоў вядомаму на Пухавіччыне настаўніку, члену Саюза пісьменнікаў Беларусі Браніславу Зубкоўскаму. Шмат хто яго ведае не толькі ў Мар'інай Горцы, дзе ён жыве па вуліцы Камунальнай, у самым цэнтры горада. Не толькі ў Пухавіцкім раёне. А працаваў Браніслаў Аляксандравіч і ў аддзеле адукацыі райвыканкама, і настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, і дырэктарам у сярэдніх школах у Блужы, Омельне, Светлым Бары. Добра ведаюць Зубкоўскага ўвогуле на Міншчыне, у Беларусі. Настаўнічаць Браніслаў Аляксандравіч пачаў на Палессі, у Брэсцкай вобласці. Інстытут закончыў у Магілёве.**

**Алесь ТУРЫНСКІ**

Выкладчыкамі ў студэнта Зубкоўскага (а закончыў ён Магілёўскі педінстытут у 1961 г.) былі таленавітыя крытыкі, літаратуразнаўцы Якуб Усікаў, Маргарыта Яфімава, Алесь Макарэвіч. Літаратурнае жыццё Магілёва канца 1950-х — пачатку 1960-х гадоў звязана з імёнамі Міхася Казакова, Ігара Шклярэўскага... А ўжо на пачатку педагагічнай дарогі жыццёвыя сцежкі-дарожкі звадзілі маладога чалавека з пісьменнікамі Іванам Кірэйчыкам, Сцяпанам Крывалём, Міколам Гілём. Усё гэта, відавочна, і спрыяла таму, што заўжды педагога цягнула да літаратуры, мастацкага слова, публіцыстыкі.

У 1968 годзе Браніслаў Аляксандравіч закончыў аспірантуру пры Беларускім дзяржаўным універсітэце. Была напісана пад кіраўніцтвам Маргарыты Яфімавай і дысертацыя па беларускай дзіцячай літаратуры. Шкада, што яна так і засталася ў рукапісе... Інтарэсы Браніслава Зубкоўскага фактычна на ўсё творчае жыццё ў значнай ступені звязаны з дзіцячай літаратурай. Вось назвы толькі некаторых рэцэнзій, артыкулаў мар'інагорскага руплаўца: «Турботы маленькага чалавека» (пра кнігу Уладзіміра Юрэвіча «Тараскавы турботы»), «І малым, і дарослым» (пра кнігу Васіля Віткі «Хто памагае сонцу»), «Даверлівая размова» (пра кнігу Эдзі Агняцвет «Хто пачынае дзень?»)... Гэтыя і іншыя публікацыі знаходзілі свае месца ў часопісах «Беларусь», «Полымя», газеце «Літаратура і мастацтва», маскоўскім часопісе «Детская литература».

Літаратурны крытык уважліва сочыць за развіццём дзіцячай літаратуры. Здараецца, выказвае сваю трывогу пра зніжэнне характару даверлівых адносін пісьменніка з юным чытачом, абураецца адносна вульгарнасці, якая запаланіла дзіцячую літаратуру. Па-ранейшаму раіць звяртацца да вопыту такіх майстроў, як Янка Маўр, Віталь Вольскі, Эдзі Агняцвет, Васіль Вітка, Іван Сяркоў, нагадвае пра вартасці педагагічнага характару, выхаваўчую ролю. І як чытач, і як крытык не абмінае ніводнай кнігі Івана Муравейкі, Рыгора Барадуліна, Уладзіміра Ліпскага, Уладзіміра Мазго, Уладзіміра Карызны, Міхася Пазнякова, Міколы Чарняўскага, Раісы Баравіковай... Стараецца адгукацца на часопісныя публікацыі твораў, разлічаных на маленькіх чытачоў і падлеткаў. Такой актыўнасці і працаздольнасці можна толькі пазайздросціць. І калі часам хто адпрэчвае вартасці дабрыні, справядлівасці, выхаванасці ў сваіх герояў, цепліню і святло падмяняе злосцю і подласцю, узводзіць іх у прыярытэты, то Браніслаў Зубкоўскі рашуча абураецца, заклікае да розуму і ўзвышанасці.

Дарэчы, часта даводзіцца чуць ад крытыка і пра неабходнасць больш рашучага ўдзелу пісьменнікаў у стварэнні мастацкага партрэта чалавека гераічнага, праяўлення большай мастацкай увагі да подзвігаў, працоўных здзяйсненняў нашага сучасніка. Канечне ж, і маленькаму чытачу нельга паказваць псеўдажыццё, пазбаўляць яго ведання пра праблемы чалавека і грамады. Але ж і маленькага чытача трэба выхоўваць на добрых прыкладах — як сямейнага, так і грамадскага жыцця. Сам Браніслаў Зубкоўскі разам з журналістам Анатолем Ярохіным напісаў дакументальную аповесць «Героямі не нараджаюцца» — пра воіна-«афганца» Мікалая Чэпіка, земляка легендарнай Алены Мазанік. І цяпер, між іншым, падрыхтаваў новы рукапіс пра яго. Хацелася б спадзявацца, што ў кнігі знойдуцца выдаўцы.

Апошнія дзесяцігоддзі Браніслаў Зубкоўскі працуе над апавяданнямі, прысвечанымі народнаму песняру Беларусі Якубу Коласу. У 1998 годзе выйшла кніга «Чаму Загібелька лепш Парыжа» і ў 2012-м — зборнік «Сцежкамі Коласа». А часопісы і газеты працягваюць друкаваць яго творы на гэтую тэму. Матэрыялам для мастацкага летапісання пра паэта



служаць звесткі, якія Браніслаў Аляксандравіч збірае пра жыццё аўтара «Новай зямлі» ў стасунках з Пухавіччынай, летаваннем Коласа ў вёсках Талька, Вусце, Загібелька, Падбярэжжа, Балачанка, Беразянка. У дакументальна-мастацкіх апавяданнях і нарысах на коласаўскую тэму Браніслаў Зубкоўскі выступае і як руплівы, дбайны краязнаўца, імкнецца паказаць добрых, спагадлівых пухавіцкіх людзей, якія сваім жыццём, клопатамі стварылі прыязныя для паэта ўмовы. Невыпадкова ж Якуб Колас столькі гадоў быў прывязаны да Пухавіччыны.

І яшчэ адна творчая дзялянка пісьменніка — яго публіцыстычныя выступленні па пытаннях школьнай адукацыі, аповеды пра настаўнікаў, педагогаў, у якіх ёсць чаму павучыцца. Нарысы, артыкулы на гэтыя тэмы Браніслава Зубкоўскага маглі б таксама скласці асобную кнігу. І мо нават не адну.

# Насамрэч Сінявокая

Ілюстраваны краязнаўчы праект Дзяніса Раманюка «Беларусь сінявокая» ўражвае не толькі памерамі і шыкоўнай паліграфіяй, але і канцэптуальна. Шчыра кажучы, дагэтуль не сустракалася спроб канкрэтызаваць, зрокава ўвасобіць, дэталёва растлумачыць вядомы нацыянальны брэнд, пра які ідзе гаворка. Але калі гэтага не рабіць, брэнд ператворыцца ў шаблон. Цяпер, аднак, можна паслядоўна і на ўласныя вочы спазнаць сутнасць і характар знакамітай беларускай «сінявокасці».




**Таццяна СТУДЗЕНКА**

Ёсць шмат спосабаў увасобіць рэальнасць феномена Беларусі. Напачатку, у г. зв. нашаніўскі перыяд, гэта было справай мастацкай літаратуры і публіцыстыкі на роднай мове. Потым надышоў час палітычнага вызначэння. З умацаваннем дзяржаўнасці з'явілася магчымасць грунтоўнага энцыклапедычнага асэнсавання спадчыны: мы маем агульныя, гістарычныя, этнаграфічныя, літаратурныя энцыклапедыі. Тым больш унікальнай падаецца спроба ўсебаковага агляду-асэнсавання краіны ў найбольш адметным яе прасторавым увасабленні-выглядзе: блакітным колеры. Вось, дарэчы, першае парушэнне стэрэатыпу: «сінявокасць» Беларусі — не толькі ў «вочках» (у абодвух сэнсах), бо не ўсцешаныя відовішчам шырокага далягляду, вонкавага прастору, які адкрываецца, напрыклад, з гор. Дык пакажыце нам краіну з вышыні! Узгадайма прыклад А. дэ Сент-Экзюперы: менавіта ў палётах сфарміравалася вызначальная рыса светапогляду пісьменніка — вострае адчуванне адказнасці за зямлю, даверліва распасцёртую пад самалётам... А Гётэ, які хлапчуком забаўляўся тым, што назіраў з ахоўных муроў роднага горада яго жыццё? Бачыць з вышыні значыць бачыць цалкам, шмат, усебакова. І, зразумела, бачыць і разумець непрадузята, ведаць, суадносіць убачанае з сабой, сваім досведам, сваёй ідэнтычнасцю. І тады ўжо не па стэрэатыпе ці «брэндзе» сказаць: я — з Сінявокай. Такі, у рэшце рэшт, урэшце, сапраўднасць бачання. А яшчэ — падстава заўважаць нечаканае самому. Глядзець па баках.

Паступова «энцыклапедыя сінявокасці» пачынае ўспрымацца энцыклапедыяй Беларусі ўвогуле. Гарады, мястэчкі і вёскі сярод вады і побач з вадой, адпаведныя краявіды, блакітныя цэрквы, «вадзяныя» абрады. Амаль усе заўважныя рэкі і азёры — асобна па Балтыйскім і Чарнаморскім басейнах. Вялікая колькасць святлоэфектаў на вадзе, магчымых толькі на зямлі Беларусі, менавіта пад яе Сонцам. Усё разам — «мастацкая кампазіцыя, напісаная рукою Бога».

**— Спадар Дзяніс, цяжка паверыць, што такая грунтоўная, нават манументальная праца спраўджаная адным чалавекам.**

— Я чалавек прымхлівы, таму не раскрываю план усяго праекта. Мяркую, што будзе пяць частак. Гэта даўняя задума: гады 3 — 4 таму я распачаў працу. Пачаў з вады, бо фотаздымак без вады — як хлеб без масла. Але натуральна, што ў архіве — самыя розныя здымкі.

**— Як бы вы самі пракаменціравалі тое, што ў вас атрымалася?**

— Па адукацыі я мастак-ілюстратар. Таму фота для мяне — такі ж «інструмент», як для звычайнага мастака — фарбы і пэндзаль. Кнігу пра Беларусь я ілюстраваў фотаздымкамі, падабранымі і «падлоўленымі» так, каб яны ўвасаблялі феномен Беларусі. Тое, што я меў сказаць з гэтай нагоды, я «агучыў» у каментарыях, у подпісах, якія досыць разгорнутыя. Вобраз краіны пададзены праз вобраз вады. Шматаблічнасць нашай Радзімы — вось што даносіць кніга.

**— Напэўна, падчас працы вы змаглі зрабіць для сябе пэўныя адкрыцці?**

— Так. Напрыклад, тое, што прысутнасць вады ў пэўным месцы стварае, так бы мовіць, яго змест. Не толькі ўпрыгожвае, але напаўняе сэнсам, робіць акрэсленым, трывалым. Мы яшчэ не зразумелі і не ацанілі гэту акалічнасць, таму вада ля жытла (што б гэта ні было, хоць сажалка) у нас нічога не каштуе. У Літве прысутнасць вады ў межах ці ў наваколлі сядзібы ў разы павышае яе кошт і каштоўнасць.

**— Тады не магу не задаць пытанне пра каштоўнасць агратурызму: як вы лічыце, што ён дае?**

— Гэта цудоўная рэч! У ідэале кожнаму трэба мець дом у вёсцы. Заўважце, я не маю на ўвазе дачны кааператыў ці дом у катэджным пасёлку. Аграэкатурызм імкнецца задаволіць адну з першасных патрэб чалавека: пабыць сам-насам побач з прыродай. Але тое, што чалавек сапраўды атрымае ад агратурызму, будзе залежаць ад яго самога.



яе азёраў, рэк і ручаін. Яна таксама — у незабудкавых і валошкавых плямках палёў, у блакітным колеры драўляных храмаў, у снезе пад чыстым небам, у ценях на тым самым снезе напрыканцы зімы. Гэта — буйныя планы. Прыгледзьцеся — і вы заўважыце блакітны колер лядку, расы. І, зразумела, — пераважна блакітны колер вачэй беларусаў...

І яшчэ стэрэатып, ці, хутчэй, асаблівасць ментальнасці, выхаваная ландшафтам. Беларусы — павольныя і паважныя, мабыць, крыху нават прыземленыя вынік аздаблення альбома «аэрафотаздымкамі».

Вызначальныя рысы макра- і мікрапланаў выдання — адметнае святло і нечаканы ракурс. Гэта — прынцыповыя моманты. Святло, гэтаксама як ландшафт, — першасны фактар вонкавай своеасаблівасці краіны. Пра тое, што «сонца свеціць усім аднолькава», можна казаць толькі метафарычна. Усім вядома, што Сонца свеціць на розныя куткі зямлі па-рознаму, вызначаючы пераважны «тон» менавіта гэтай зямлі. Нечаканасць убачанага — нестэрэатыпнасць, няўмоўнасць,

— Што да праекта, фота, тэкстаў, укладання — праца толькі мая. Але, зразумела, выдаць кнігу такога аб'ёму і такой якасці было б немагчыма без дапамогі пэўных фірм і асоб, якім я вельмі ўдзячны.

**— Ці сапраўды гэта толькі першая частка грунтоўнай задумы адлюстраваць усю Беларусь у фотаздымках? І чым гэта будзе адрозніваццa ад іншых падобных спроб? Наконт «сінявокасці» — унікальнасць бясспрэчная, але «альбомаў Беларусі» — незлічоная колькасць.**

*Час чытаць*

# Ад папіруса да кнігі... і назад?

**Анастасія ГРЫШЧУК**

Лівіё Дзэрбіні, аўтар кнігі «Пампеі», прэзентаванай падчас XX кніжнай выстаўкі-кірмашу, прафесар універсітэта Ферары, спецыяліст па рымскай гісторыі і археолаг, распавёў, што ў Еўропе пытанне пра будучыню кнігі сёння вельмі актуальнае.

— Дзе, як не на кніжнай выстаўцы, запытацца: ці ёсць будучыня ў кнігі? Многія кажуць, што з цягам часу будзе ўсё больш пашырацца электронны фармат...



У студзені гэтага года я быў запрошаны на канферэнцыю, дзе ішла гаворка пра тэхналогіі камунікацыі. І многія сапраўды лічаць, што будучыня — за электроннымі кнігамі. А я на гэтую канферэнцыю паехаў з дзвюма рэчамі: кнігай і дыскетай (калі вы яшчэ памятаеце, што гэта такое). Для таго, каб выступіць, я мусіў прадэманстраваць прэзентацыю з дыскеты. Але мне адказалі: «Гэта немагчыма! У нас не засталося патрэбнага абсталявання!» Вось тады я і задаў пытанне: «І як вы думаеце цяпер: ці ёсць будучыня ў кнігі?..»

Кніга — самы практычны носьбіт інфармацыі. Так, пераход ад скрутка папіруса да кнігі ў сучасным выглядзе — вялікае дасягненне цывілізацыі, бо змянілася фізіялогія чытання: мы можам прагартаць колькі старонак наперад, вярнуцца назад. Калі ж мы чытаем з манітора, то, фактычна, вяртаемся да скрутка папіруса. На той канферэнцыі я сказаў наступную рэч: «Я яшчэ і археолаг. Праз дзве тысячы гадоў, калі ў маёй магіле знойдуць дыскету, археолагі будучага пакалення скажуць: «О так, гэта было развітае грамадства, але не знаёмае з пісьменствам», — бо яны проста не змогуць тую дыскету прачытаць! Таму адказ на пытанне такі: кніга мае будучыню і заўжды будзе яе мець.

*З нагоды*

# Прывабіць падлеткаў чытаннем

**Марына ВЕСЯЛУХА**

У выставачным цэнтры Litexpo ўчора распачаў работу XIV Вільнюскі міжнародны кніжны кірмаш. Яго ўдзельнікамі сталі і беларускія выдавецтвы.

У цэнтры ўвагі сёлетняга кірмашу ў літоўскай сталіцы апынулася літаратура для падлеткаў. Якія кнігі яны чытаюць? Адлюстравання якіх тэм і праблем шукаюць у літаратуры? Якія формы і спосабы чытання найбольш прывабныя для іх? Усе гэтыя пытанні — своеасаблівыя тэмы дыскусій і семінараў у межах праграмы форуму. А яна — надзвычай багатая. Арганізатары абяцаюць, што «Дзень сяброў», «Доўгая пятніца», «Незвычайныя сустрэчы» і «Дзень сям'і» (а менавіта так называюцца дні кірмашу) будуць захапляльныя, поўныя новай інфармацыі і крэатыўнасці. І ім немагчыма не паверыць. Чаго варты толькі спіс замежных гасцей-пісьменнікаў, якія налічвае больш як два дзясяткі вядомых імёнаў!

Беларусы таксама не застаюцца ўбаку ад кірмашовага кніжнага ажыятажу. Па традыцыі на Нацыянальным калектыўным стэндзе «Кнігі Рэспублікі Беларусь» прадстаўлены вынікі працы вядучых выдавецтваў краіны: «Беларусь», «Мастацкая літаратура», «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», «Вышэйшая школа», «Народная асвета», «Адукацыя і выхаванне», «Пачатковая школа», «Выдавецкі дом «Звязда». Адметная і беларуская праграма. Так, якраз сёння прадстаўлены сумесны беларуска-літоўскі праект — новая кніга з серыі «Энцыклапедыя рарытэтаў»: альбом «Беларусы ў фотаздымках Ісака Сербава. 1911 — 1912». А выдавецтва «Пачатковая школа» разам з галоўным дырэктарам міжнароднага вяшчання Беларускага радыё, вядомым пісьменнікам Навумам Гальпяровічам прэзентавала зусім новы даведнік «Запрашаем у Беларусь» на беларускай і англійскай мовах.



*Маладзічок*

# Страчанае сэрца

**Юрась ПАНКЕВІЧ**

Напэўна, усе беларусы ведаюць, хто такі цмок. А калі ты, мой сябра, раптам не ведаеш, то давядзецца распавесці табе цэлую гісторыю, так бы мовіць, папярэдзіць, каб ты не трапіў у бяду. Таму слухай.

Зіма — час, калі ўсё засынае. Спяць рэкі ды азёры пад ільдом, спяць дрэвы, накрытыя снегавымі шапкамі. Нават калі моцна патрэсці дрэва, ты яго не разбудзіш. Так крэпка яно спіць. Не спяць толькі людзі, бо ім трэба хадзіць на працу і ў школу. І Цмок-Пярэварацень не спіць. Не спіць, бо шукае сваё сэрца. Чаму шукае? Як ён жыве без сэрца? Трэба табе сказаць, што ён — незвычайны цмок. Нават называюць яго паіншаму — Цмок-Пярэварацень. Гэта значыць, што часам ён чалавек, а часам ператвараецца ў цмока.

А было ўсё так...

У адзін год, якраз падчас Купалля, закахаўся хлопец у дзяўчыну. Разам яны адзначалі гэтае летняе свята: вадзілі карагоды, скакалі праз вогнішча, спявалі, хадзілі шукаць папараць-кветку. І так зачаравала яго дзяўчына, што ачомаўся хлопец толькі зранку, у лесе, адзін — ні папараць-кветкі, ні дзяўчыны, і ў грудзях пуста. Няма сэрца. Можа б ён і наблага жыў — мы ж ведаем, што без сэрца прасцей прымаць абгрунтаваныя рашэнні. Але кожнай зімой, як толькі кладзецца снег і лёд пакрывае ваду, стаў ператварацца ён у цмока, надта бязлітаснага. Каго ні сустрэне, адразу ж дзьме на яго агнём і забірае сэрца.

Так-так, вы, напэўна, здагадаліся: цмок шукаў сваё сэрца. Дабра ён не нажыў, сяброў згубіў, закахацца не мог. Бо як кахаць, як не маеш сэрца? Але ўзамен атрымаў ён вечную маладосць, таму не старэў. Жыў адзін, і ніхто не ведаў, што ён пярэварацень. Ды з-за кепскага характару да яго ніхто і не заходзіў, усе даўно забыліся на яго.



А хлопец кожную зіму ператвараўся ў цмока і знікаў са сваёй хаты, шукаючы страчанае сэрца. У выглядзе цмока ў хату ён вярнуцца не мог, бо скура на ім гарэла. Не жарт жа гэта, калі можаш дыхаць агнём. Таму даводзілася яму шукаць імклівую раку ці возера, якое не замярзае, а такія з нашымі моцнымі маразамі знайсці няпроста. І залягаў ён на дне да вечара, а як толькі цямнела, выбіраўся з вады і зноў выпраўляўся на пошукі.

Колькі год паўтаралася гэта, колькі часу ён так жыў? Гісторыя старая, таму дакладна ніхто не адкажа.

Але аднаго разу здарылася з ім нечаканае. Вылецеў цмок на сваё жорсткае паляванне і на цёмнай дарозе ўбачыў сілуэт. Гэта была маленькая дзяўчынка. Расправіў крылы, набраў поўныя грудзі паветра, а ўсе ведаюць, што агонь гарыць лепш, калі больш паветра, і паляцеў проста на дзяўчынку. І як толькі ён падляцеў і ўжо хацеў было апячы яе агнём, дзяўчынка павярнулася. Яна паглядзела ў вочы цмоку, і з яе вачэй пакаціліся слёзы.

Дзяўчынка спалохалася не на жарт. Ды і цмок разгубіўся. Яны застылі адно перад адным, бо ніколі цмок не бачыў вачэй. Ён забіваў са спіны. Але вочы дзяўчынкі яму падаліся знаёмымі. Зялёныя, яркія. Узгадаліся цмоку пошукі папараць-кветкі, спевы дзяўчат і скокі праз вогнішча. Але што з гэтага: ён жа не меў сэрца. І ўсё ж, каб не памыліцца, схапіў ён дзяўчынку і ўзняўся ў неба. Падняўся высока-высока і выдыхнуў з грудзей сваіх агонь. З гучным рокатам раскаціўся ён па марозным паветры. Цмок кінуўся ў ваду.

Дзяўчынка апрытомнела. Расплюшчыўшы вочы, яна вырашыла, што спіць і ёй дагэтуль сніцца той самы сон са страшным цмокам. Было цёпла і суха, хоць паўсюль стаяла вада, і, калі цмок выдыхаў трошкі больш паветра з агнём, можна было ўбачыць рыбу, якая не заснула на зіму.

— Чаму вы мяне не забілі, пан цмок? — прашаптала дзяўчынка.

Ён толькі ўздыхнуў і паглядзеў зноў у яе вочы.

— Я пытаюся не таму, што маю на вас за гэта крыўду. Але мне бабуля распавядала, што аніводны чалавек не ўцёк жывым ад вас.

— Я не ведаю, — прарычэў цмок. — Мне вочы тваё падаліся знаёмымі.

— Яны вельмі падобныя да матуліных. Так усе кажуць, — з усмешкай адказала дзяўчынка. Ёй падалося, што ўсё, што распавядалі пра цмока, няпраўда. Ён добры. А злуецца толькі таму, што жыве адзін і ў холадзе.

— Маці?.. — задумення працягнуў цмок.

— Так, мая маці. У мяне сапраўды яе вочы. Некаторыя, праўда, кажуць, што яны купальскія. І што я купальская. Але я не разумею, чаму. Бо нарадзілася я не на Купалле. Ох... Мая мамка, напэўна, вельмі хвалюецца. Пане цмок, ці не маглі б вы мяне адпусціць? Вы ж не збіраецеся мяне забіваць, а будзеце сапраўдным рыцарам і занесяце мяне дахаты, бо мая мама, пэўна, ужо месца сабе не знаходзіць.

Цмок заварушыўся, асцярожна, неяк па-бацькоўску, узяў сваімі лапамі з вялікімі кіпцюрамі дзяўчынку і, ператвараючы ваду вакол сябе ў кіпень, з парай выслізнуў з вады.

— Вось мая мамка, — паказала дзяўчынка на жанчыну, якая сядзела ля акна ў хаце. — Я б з радасцю вас запрасіла ў госці на гарбату, пане цмок. І маці мая будзе вельмі рада. Вы згодны?

Ён глядзеў у акно, і вочы яго поўніліся слязьмі. Ён пабачыў ля вакенца сваю каханую дзяўчыну. І ўзгадаў усё. Як той купальскай ноччу зьбегли яны шукаць у лесе папараць-кветку. Доўга шукалі. Але час, калі побач з табой каханая, ляціць незаўважна. Яны знайшлі яе. І як толькі дзяўчына ўбачыла кветку, сарвала яе — упала як нежывая. Забілася моцна сэрца хлопца. У каго ён толькі не прасіў дапамогі, але з'явілася перад ім чорная панна, вырвала яго сэрца і аддала дзяўчыне, як ён таго і хацеў. А самому хлопцу з таго часу наракла быць цмокам.

— Дык вы зойдзеце на гарбатку, пане цмок?

Ён, гледзячы дзяўчынцы ў вочы, папрасіў паабяцаць, што яна ніколі не распавядзе пра сустрэчу з ім. І як толькі атрымаў абяцанне, узляцеў высокавысока ў неба.

Дзяўчынка ж абяцанне сваё стрымала. Толькі седзячы ля акна, глядзела, як падаюць зоры, і кожны раз думала, што гэта не зорка — гэта вяртаецца з нябёс да яе на гарбату самотны, але добры цмок.

# Уласнымі рукамі

Напярэдадні Дня абаронцаў Айчыны і жаночага свята многія заклапочаны адным і тым жа: што падарыць блізкім людзям ды калегам? Адказ на гэтае пытанне можна было знайсці падчас XX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, завітаўшы на майстар-клас да юных паліграфістаў.

**Раіса МАРЧУК, фота аўтара**

Менавіта яны, навучэнцы адзінай у Беларусі спецыялізаванай установы — Мінскага дзяржаўнага прафесійна-тэхнічнага каледжа паліграфіі імя В. Харужай — на вачах у гледачоў дэманстравалі, як можна вырабіць міні-кнігу ці адрэстаўрыраваць выданні ў цвёрдым пераплёце. А якія нататнікі можна было тут убачыць і набыць! У аднаго — льняная вокладка, другі ўпрыгожаны нацыянальным беларускім арнаментам (ручная вышыўка крыжыкам), трэці прыцягвае погляд малюнкам, створаным пры дапамозе бісеру, чацвёрты — такі элегантны і стыльны, што адразу хочацца пакласці ў сумачку.



Дзіяна Кацнельсон прадстаўляе падарункавыя нататнікі.

— На выстаўцы мы прадставілі прадукцыю, якую выраблюю навучэнцы першага і другога курсаў на ўроках вытворчага навучання і падчас заняткаў у гуртках тэхнічнай творчасці: штодзённікі, нататкі, сшыткі, альбомы для фотаздымкаў і шмат іншай паліграфічнай прадукцыі, — распавяла майстар вытворчага навучання Дзіяна Кацнельсон. — Потым усе гэтыя вырабы дэманструюцца на розных выстаўках і занятках, каб паказаць творчыя дасягненні юных майстроў. Мы маем уласную кнігарню, дзе можна набыць усе рэчы, выробленыя юнакамі і дзяўчатамі.



Аляксандра Папова (злева) і Карына Пенкрат даюць майстар-клас па вырабе міні-кніг.

Для афармлення нататнікаў і кніг, сцвярджалі разам са сваім майстрам дзяўчаты, можна выкарыстоўваць любыя матэрыялы: пацеркі, плёнку, фольгу, тканіну і стужкі, аплікацыі, тэрмавініл. Асабліва прыгожыя вокладкі атрымоўваюцца з вельмі простага, даступнага і прывабнага матэрыялу — сучасных беларускіх шпалер.

Адна з навучэнак каледжа, Аляксандра Папова, распавяла, што дома ў яе багатая бібліятэка. Розныя кнігі на працягу паўстагоддзя збіралі дзядуля і бацькі дзяўчыны. Сярод выданняў шмат тых, якія патрабуюць рэстаўрацыі. Навыкі, набытыя падчас вучобы, Аляксандра з поспехам прымяніла і вярнула да жыцця некалькі дарагіх яе блізкім выданняў з хатняга збору.

*Да ведама*

# Запрашальнік у свет дзяцінства

**Юзэфа ВОЎК**

Да 23 лютага ў выставачным цэнтры «БелЭкспа» праходзіць IX спецыялізаваная выстаўка «Свет дзяцінства-2013». Кірмаш арганізаваны пад патранатам Міністэрстваў гандлю, аховы здароўя, адукацыі і Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта.

Адметна, што на выстаўцы апроч адзення і абутку для дзяцей ды падлеткаў, мэблі і абсталявання для дома і навучальных устаноў, дзіцячага харчавання і цацак прадстаўлены шырокі асартымент кніг, вучэбных дапаможнікаў і перыядычных выданняў для дзяцей і падлеткаў. Сярод выдавецтваў, якія гэтымі днямі працуюць у «БелЭкспа» — і РВУ «Выдавецкі дом «Звязда». Так, наведвальнікі кірмашу могуць пазнаёміцца з новымі творамі знакамітых беларускіх пісьменнікаў, а таксама набыць іх для сваіх дзяцей і ўнукаў.

# Лекции сто лет тому назад

Данила АРТИМОВИЧ

Наверное, многим из нас, будучи студентами, в глубине души было интересно узнать, как и по каким учебникам учились наши предшественники. Перенестись на машине времени в начало XX века можно благодаря Александру Преснякову, одному из наиболее известных и авторитетных российских историков своего времени. Уроженец Одессы, он окончил Петербургский университет, защитил докторскую диссертацию, преподавал в ряде учебных заведений, в том числе в alma mater. Уже после революции был избран членом-корреспондентом Российской академии наук.




Одной из сфер интересов Преснякова являлась история Киевской Руси. Он написал исследования «Княжое право в Древней Руси» (1909) и «Образование Великорусского государства» (1918). Исследователь отвергал теорию «родового княжеского владения» в Киевской Руси и полагал, что в основе княжеской собственности лежит «семейное, отчинное право». При этом Киевскую Русь он рассматривал как общую основу исторического развития украинского, белорусского и русского народов.

В 1907 — 1908 и 1915 — 1916 годах Пресняков читал курсы по истории Киевской Руси в Петербургском университете. Их тексты дошли до наших дней, поэтому издательство Белорусской Православной Церкви при поддержке ООО «Харвест» решило переиздать их под названием **«История Руси. Киевская Русь»**. Причём были сохранены структура лекций, характер и стиль изложения материала, а также библиографические описания (нередко поданные автором курсов конспективно).

Благодаря этой книге современные студенты смогут составить представление об учёбе своих предшественников. А вот будущие профессиональные историки и просто любители прошлого получат настоящий подарок, ведь автор с необыкновенной точностью и доходчивостью изложил один из сложнейших периодов русской истории, который вызывает значительные трудности при изучении в школах и вузах.

# Ленин жил. Ленин жив. Ленин...

Данила АРТИМОВИЧ

Иногда достаточно любопытно сравнить, как со временем меняется восприятие того или иного произведения. В советское время труды Владимира Ильича Ленина, лидера большевиков, являлись обязательными для изучения. Достаточно сказать, что студенты факультета журналистики были вынуждены конспектировать все статьи вождя, посвящённые прессе. С распадом СССР ракурс восприятия существенно изменился. Изучение работ Ленина перестало быть обязательным. Сначала звучали требования скинуть их с парохода современности. Но со временем стало очевидно, что в разумных пределах труды Ленина могут быть полезны молодым гуманитариям. Прежде всего, как важнейший исторический источник. А также как программные документы партии, более 70 лет руководившей 1/6 частью земли. Поэтому интерес читателей не может не вызвать издание под одной обложкой нескольких произведений Ленина: **«Империализм как высшая стадия капитализма. Государство и революция. Детская болезнь «левизны» в коммунизме»**.




Первый труд является популярным очерком, посвящённым переходу капитализма в конце XIX — начале XX века от стадии первоначального накопления капитала к стадии монополистического капитализма, или империализма. В «Государстве и революции» автор писал, развивая идею Энгельса, о том, что «только в коммунистическом обществе, когда сопротивление капиталистов уже окончательно сломлено, когда капиталисты исчезли, когда нет классов <...>, — только тогда «исчезает государство и можно говорить о свободе». Третья работа содержит резкую критику противников большевизма.

Современные политики и публицисты продолжают спорить: почему распадаются империи? Почему времена застоя в государстве неизменно приводят к расцвету революционных настроений? Почему молодёжь во всём мире тысячами и тысячами пополняет ряды леворадикальных партий? Ответы, которые В. Ленин, теоретик и практик, создавший самую успешную политическую партию в истории России, предлагает на эти и многие другие вопросы, актуальны и в наши дни. Что еще интереснее, именно сейчас, во время, которое историки постоянно сравнивают с неустойчивой эпохой начала XX века, эти ответы звучат как никогда убедительно.

# «Зноў пра вайну, навошта?»

Ганна СКАЛЬЦОВА

Так вызначаў Алесь Адамовіч верагоднае пытанне да сябе, «вайнапісальніка», з боку пакалення 1990-х. Так мог бы раптам спытаць і наш сучаснік, сустрэўшы новую **кнігу з серыі «Беларускі кнігазбор» з творамі Алеся Адамовіча**. У якасці адказу пісьменнік прапанаваў аповесць «Нямко» — усім вядомую цяпер гісторыю «Франца і Паліны». Улічваючы яе «неартадаксальнасць», відавочна, што пісаць (выдаваць) «зноў пра вайну» трэба дзеля таго, каб зноў і зноў спрабаваць данесці праўду пра яе, на ўсе лады выкрываючы новыя і новыя рысы гэтай жудаснай з'явы. Рабіць гэта тым больш актуальна, прынцыпова, няўмольна і нястомна, што з цягам часу ўсё цяжэй — па розных прычынах.




Напрыклад, па... «эстэтычнай». У 1975 г. Алесь Адамовіч піша свайму сябру Васілю Быкаву: «Нешта з ёй... адбываецца, з нашай ваеннай літаратурай. Мы ненавідзім вайну, але так уцягнуліся ў ролю яе «летапісцаў» і выкрывальнікаў, што пачынаем ужо... любіць сваю памяць пра вайну. Упрыгожванне, эстэтызацыя вайны праз выкрыванне... нечакана вось як гэта паварочваецца. <...> Як пазбегнуць гэтага?..»

У гэтым запытанні ўвесь Алесь Адамовіч, чалавек, гранічна неабыякавы да вайны, да творчасці пра яе, да літаратуры і прысвечанай ёй навуковай працы, да грамадскага жыцця — увогуле і ў крытычных становішчах. Як, напрыклад, пасля Чарнобыльскай катастрофы: ліст пісьменніка да кіраўніка савецкай дзяржавы М. Гарбачова з просьбай пра падтрымку і дапамогу, прасякнуты болем за лёс атручанага радыяцыяй народа. «Белоруссия действительно на краю пропасти!» — крык душы, гатовай змагацца за перааdolенне наступстваў, чаго б тое ні каштавала. І гэта не істэрыка, а прыклад дзяржаўнага мыслення, якое, побач з «планетарнымі» думкамі, прапановамі, не пазбягае і такіх пытанняў, як неабходнасць стойлавага утрымання жывёл на забруджаных тэрыторыях (ліст ад 1 чэрвеня 1986 г.).

Уражвае важкасць (можна таксама сказаць — дзяржаўнасць) пытанняў, узнятых літаратуразнаўчымі артыкуламі А. Адамовіча. «Талстоўскі крок» — пра значэнне ўспрымання і рэпрэзентацыі беларускай літаратуры ў сусветным кантэксце, «Паэтычнае вярхоўе беларускай прозы» — пра «паэму-раман» Якуба Коласа «Новая зямля» ў яе вызначальным, зямельным, пытанні. Наконт апошняга — палеміка з савецкай тэндэнцыйнай інтэрпрэтацыяй «супраць-буржуазнасці» Коласавага твора, нібы дэкларавaнай аўтарам у гісторыі няспраўджаных «уласніцкіх» памкненняў памерлага Міхала. Калі ўлічыць час напісання артыкула (1957), усведамляецца не толькі бескампраміснасць, але і праніклівасць аналізу. Менавіта на яго абапіраецца сучаснае коласазнаўства. Прыцягвае ўвагу досвед Адамовіча-тэкстолага, які шмат намагання аддаў спадчыне Максіма Гарэцкага і пакінуў пэўныя запаветы наступным даследчыкам — наконт «Камароўскай хронікі», напрыклад: «Гэты твор я асабліва люблю, і здаецца ён мне асабліва вялікім, яшчэ не ацэненым намі, багаццем» (ліст да Галіны Гарэцкай ад 3 красавіка 1981 г.). Шкада, што праз трыццаць гадоў «Камароўская хроніка», па-ранейшаму, — «белая пляма» нашай літаратуры.

Змяшчэнне пад адной вокладкай шэрагу звыклых і нечаканых, але аднолькава хвалюючых надзённых сэнсаў са спадчыны пэўнага пісьменніка, — адметнасць канцэпцыі выданняў «Беларускага кнігазбору». Квінтэсэнцыя і ўсебаковая рэпрэзентацыя творчасці (мастацкая, публіцыстычная, эпісталярная спадчына, рэдкія фота, каментарыі і крытыка) спрыяе «стэрэаскапічнаму» (выраз А. Адамовіча), цэласнаму ўяўленню пра творцу.

# Паміж Польшчай і Расіяй

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

Шматтомны праект «Беларускі кнігазбор» папоўніўся **«Выбраным» Анатоля Грыцкевіча**. Гэта новы, 63-і, том, які выйшаў у зялёнай серыі «гісторыка-культурныя помнікі». Ведаючы пра асобу і творчасць аўтара, з'яўленне «Выбранага» ў рамках серыі выглядае лагічным.




Адзін са старэйшын беларускай гістарыяграфіі (А. Грыцкевіч нарадзіўся ў 1929 годзе), ён пачынаў сваю кар'еру як выпускнік Мінскага медыцынскага ўніверсітэта. Пасля атрымаў адукацыю ў сталічным лінгвістычным інстытуце і на гістарычным факультэце БДУ. Абараніў кандыдацкую і доктарскую дысертацыі. Працаваў у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук БССР і мінскім Інстытуце культуры. Аўтар больш як 900 навуковых прац, у тым ліку 6 манаграфій.

Аснову новага тома «Кнігазбору» склала гістарычнае даследаванне «Барацьба за Беларусь. 1917 — 1921» (яе першае выданне пабачыла свет у 2008 годзе на рускай мове пад назвай «Западный фронт РСФСР. 1918 — 1920»). Кніга разлічана на шырокае кола чытачоў, якім, напэўна, мала вядома пра вайну паміж Савецкай Расіяй і Польшчай 1919 — 1920 гадоў. Аўтары савецкай гісторыі заўсёды вызначалі яе як «паход Антанты», нягледзячы на тое, што рэальная барацьба адбывалася за ўсталяванне новых межаў паміж Расіяй і Польшчай. Паводле аўтара, кніга з'яўляецца «першым сярод даследаванняў савецка-польскай вайны 1919 — 1920 гадоў, дзе ўлічаны дыпламатычныя адносіны таго перыяду, барацьба палітычных сіл у Беларусі і Польшчы, палітычныя дзеянні савецкага расійскага і польскага ўрадаў. Яе асабліваць — сімпатыя да нацыянальных рухаў у <...> Літве, Беларусі і Украіне».

Кнігазбораўскі том завяршаецца раздзелам «Старонкі гісторыі», дзякуючы якому чытачы змогуць даведацца пра ўніяцкую царкву, славутыя бітвы беларусаў і нават пра дзейнасць янычар у нашай краіне.

Паралелі

# «У вас людзі вераць у кнігу!»

Госцем сёлетняй Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу стаў вядомы нямецкі аўтар Ніколь Любіч. Палітолаг па адукацыі, ён працуе пісьменнікам і журналістам у Берліне. Падчас кніжнага форуму спадар Ніколь правёў паэтычныя чытанні ў Інстытуце імя Гётэ ў Мінску, сустрэўся з маладымі аўтарамі. За кубачкам кавы спадар Ніколь адказаў і на пытанні нашага карэспандэнта.

Марына ВЕСЯЛУХА

**— Не так даўно падчас адной з літаратурных імпрэз надзвычай актыўна абмяркоўвалася пытанне: пісьменніцкая праца з'яўляецца прафесіяй ці прызваннем? Якое ваша меркаванне на гэты конт?**

— Я ў гэтым сэнсе прагматычны чалавек і разглядаю пісьменніцкую справу як прафесію. Але адрозніваю паняцці «пісьменнік» і «аўтар». У нямецкай мове актыўна ўжываюцца гэтыя два словы ў адносінах да людзей, якія пішуць мастацкія тэксты. Для мяне пісьменнік — чалавек вельмі вядомы, заслужаны майстар справы. Пісьменнікам я магу назваць Гюнтэра Граса ці Марціна Вальцэра, гэта творцы старэйшага пакалення. А астатніх, маладзейшых, хутчэй можна назваць аўтарамі.

Для мяне заўсёды было мэтай зарабляць сабе на жыццё гэтай прафесіяй. Аднак жыць толькі на пісьменніцкія ганарары вельмі складана, таму сітуацыя вымушае займацца іншымі справамі. Але гэта і новы аспект: у такіх абставінах людзі маглі б і не быць аўтарамі, калі б не лічылі гэтую справу сваім прызваннем. Я заўсёды пратэстую супраць рамантычнага ўяўлення пра пісьменніка як пра чалавека, які павінен быць бедны, а добры пісьменнік абавязкова павінен пакутаваць. Гэта няслушна — любы чалавек за сваю працу павінен атрымліваць грошы, і аўтар таксама павінен атрымліваць ганарары, якіх хапала бы яму на жыццё.

**— У такім разе, ці можна навучыцца прафесіі аўтара і напісаць добры твор на заказ?**

— Навучыцца гэтаму можна, і я па сабе заўважаю, што майстэрства прыходзіць з вопытам. Канечне, для таго, каб пісаць добра, трэба пісаць. І мець страсць да пісання, і адчуваць слова, мову. Для мяне гэтая прафесія — пытанне дысцыпліны і вопыту. Пры гэтым важна ўсведамляць, што калі ты напісаў 20 добрых раманаў, то твой 21-ы твор неабавязкова таксама будзе добры. Кожны новы твор — заўсёды новы выклік. І аўтар, пішучы, развівае сябе. Гэта адметнасць нашай працы. Думаю, творы, напісаныя на замову, могуць быць вельмі добрымі. Вядома, гэта не пастулат. Аўтар павінен зрабіць тэму сваёй, знайсці ў ёй нешта, што яго самога «зачэпіць». Канечне, нельга параўноўваць пісьменніцкую творчасць з журналістыкай, дзе вельмі шмат пішацца на заказ і атрымліваюцца добрыя рэпартажы. Але, думаю, параўнанне з музыкай было б слушнае. Напрыклад, Бах таксама пісаў шмат твораў на замову, і яны ўсё яшчэ актуальныя.

**— Апроч пісьменніцкай дзейнасці вы працуеце журналістам. У чым для вас розніца паміж гэтымі відамі творчай працы?**

— Спачатку я працаваў толькі як журналіст, пазней паралельна з публіцыстыкай пачаў пісаць мастацкія творы. Атрымлівалася прыкладна 70 працэнтаў журналістыкі і 30 — пісьменніцкай працы. Але цяпер я на 90 працэнтаў займаюся пісьменніцтвам. А розніца для мяне — у ступені свабоды. Калі пішу журналісцкі тэкст, то перад асобамі, якія фігуруюць у матэрыяле, адчуваю абавязак гаварыць праўду. Акрамя таго, пішучы літаратурны твор, маю магчымасць сам выбіраць тэмы, стыль. А супрацоўнічаючы з пэўным часопісам, я павінен трымацца яго стылю і тэматыкі. Розніца і ў тым, што вага журналісцкага слова намнога большая. Артыкул у газеце ці часопісе прачытаюць некалькі тысяч чалавек ці нават мільён, калі гэта выданне з вельмі вялікім накладам. У той час як аўдыторыя мастацкага тэксту больш абмежаваная.

**— Існуе меркаванне, што пісьменнік павінен быць сціплым, адчуваць нейкі сорам, страх перад тым, як прадставіць твор чытачу...**

— Мне гэта знаёма. Калі пішаш, то проста сядзіш за камп'ютарам, нават не маеш уяўлення, як успрымуць іншыя. Самы хвалюючы час для мяне — перыяд паміж здачай у друк і з'яўленнем першых рэакцый. Але я таксама лічу, што любы чалавек, які выступае на публіцы са сваімі творамі, — аўтар, музыкант, рэжысёр — абавязкова павінен быць гатовы да таго, што ўзнікнуць дыскусіі, з'явіцца крытыка. Не трэба баяцца, а трэба быць гатовым адказаць на крытыку. Гэта адказнасць любога творчага чалавека. Ёсць шмат пісьменнікаў, якія не любяць прэзентаваць свае творы, чытаць іх перад публікай. Я магу зразумець гэтую пазіцыю: большасць стала пісьменнікамі для таго, каб пісаць, а не для таго, каб выступаць. Але з іншага боку, калі вы ўжо прадстаўляеце сваю творчасць, то гэта трэба рабіць прафесійна, так, каб людзі бачылі, што вам прыемна чытаць свой верш ці ўрывак з рамана. Часам прыходзіш на сустрэчу з аўтарам, а ён чытае так, што адразу бачна: яму гэта не цікава, ён не хоча, і ўвогуле яго сюды прымусілі. Прафесійна прадстаўляць твор — таксама адказнасць пісьменніка.

**— Я часам спрабую пісаць прозу, і мне цікавей пісаць пра тое, што было насамрэч у жыцці, чым цалкам прыдумваць падзеі і персанажаў...**

— Тут мы вельмі падобныя, таму што я таксама люблю пісаць на падставе фактаў, якія сапраўды адбываліся. Доказ таму — дзве мае апошнія кнігі. Я збіраў інфармацыю пра гэтыя жыццёвыя выпадкі, шмат чаго даведаўся, а пасля проста дадаў выдуманых персанажаў, выдуманую сюжэтную лінію і змяшаў іх з сапраўднымі падзеямі. Атрымліваецца, што раманы напісаныя на дакументальнай аснове. Я лічу, што пісьменнікі павінны жыць у гэтым свеце побач з іншымі людзьмі, яны павінны глядзець навокал і натхняцца выпадкамі, пра якія чуюць, тым, што адбываецца побач з імі. Я не люблю вобраз пісьменніка, які сядзіць дзесьці на сваёй мансардзе і піша штосьці «з галавы».



Фота прадастаўлена Інстытутам імя Гётэ ў Мінску

**— Сюжэты двух апошніх вашых раманаў нейкім чынам звязаныя з судовымі справамі, забойствамі і жыццём у турме. Адкуль такая цікавасць да гэтага аспекту жыцця?**

— Ідэя ўзнікла не з таго, што ў мяне была нейкая спецыфічная цікавасць да крымінальных выпадкаў, наадварот, я адштурхоўваўся ад кахання. Думаў сабе так: ёсць каханне паміж людзьмі, што ж можа зацямніць гэтае каханне, зрабіць яго немагчымым, які ёсць ценевы бок кахання або нейкія табу, што існуюць у адносінах паміж людзьмі. І, напрыклад, задаў сабе пытанне: што было б, калі б нехта закахаўся ў жанчыну, якая з'яўляецца дачкой ваеннага злачынцы? Або што было б, калі б хтосьці закахаўся ў маньяка. І вось ужо сыходзячы з гэтага я пачынаю разважаць далей, і так узнікае гэтая тэма.

**— Добры пісьменнік — заўсёды добры чытач. Якіх аўтараў вы чытаеце і хто з'яўляецца вашым творчым настаўнікам?**

— Маім любімым пісьменнікам быў і застаецца Макс Фрыш, я ім вельмі захапляюся і вельмі яго люблю. Увогуле, я апошнім часам чытаю выключна раманы, і некаторыя з іх надзвычай цікавыя. Гэта, напрыклад, раман Давіда Гросмана, сучаснага ізраільскага пісьменніка. У ім аўтар распавядае гісторыю кахання на фоне ўсёй гісторыі Ізраіля. Мне вельмі падабаецца такая форма, калі ў вузкія межы, дзе дзейнічаюць усяго 2-3-4 персанажы, можна «упакаваць» гісторыю нейкай краіны або распавесці пра вайну. У гэтай кнізе — гісторыя жанчыны, сына якой забралі ў войска, калі ў Ізраілі пачалася вайна з Ліванам. Яна баіцца, што ёй прыйдзе вестка пра яго смерць, ёй здаецца: зараз пад дзвярыма з'явяцца салдаты, якія паведамяць, што сын загінуў. І яна так баіцца, што ўцякае з дома і пешшу ідзе праз увесь Ізраіль, сустракаецца з рознымі людзьмі. Цікава тое, што калі Гросман напісаў гэтую кнігу, да ягоных дзвярэй прыйшлі салдаты, і ён даведаўся пра смерць сына на вайне.

Атрымліваецца, што такія кнігі часам нават прадказваюць будучыню. З маім раманам «Марская ціша» таксама звязаная падобная гісторыя. Я пішу пра гісторыю кахання паміж жанчынай з Сербіі Аннай і хлопцам Робертам. Праз некаторы час высвятляецца, што бацька Анны — ваенны злачынца. Ужо калі выйшла кніга, адзін чалавек мне расказаў гісторыю дзяўчыны, якая закахалася ў хлопца з Сербіі, а яго сваяк удзельнічаў у масавых згвалтаваннях падчас вайны. Яна сказала: кніга амаль пра нас. Мне аднойчы таксама напісала жанчына, якая працуе ў трыбунале ў Гаазе. У сваёй кнізе я цытую працэс, які сапраўды адбываўся, а гэтая жанчына была адвакатам падчас таго самага працэсу. Яна прачытала кнігу і распавяла, што адчувала тады і цяпер, пасля прачытання. Такія моманты заўсёды вельмі кранальныя, бо атрымліваецца: тое, што мы пішам, знаходзіць адлюстраванне ў рэальным жыцці.

**— Ведаю, што вы ўпершыню ў Мінску. Якія вашыя ўражанні ад горада і ад наведвання Мінскай кніжнай выстаўкі-кірмашу?**

— Я сябе тут адчуваю вельмі дзіўна, бо Мінск мне нагадвае час, праведзены ў Маскве. З 1985 па 1988 год я жыў у Маскве, а мой бацька жыў там яшчэ да 1991-га, і я таксама вельмі часта бываў у гэтым горадзе. Для мяне гэта быў вельмі важны перыяд, мне было 14—17 гадоў, шмат усяго цікавага адбывалася. Тут такія ж шырокія вуліцы, як у Маскве, дамы таксама падобныя, яшчэ і надвор'е такое ж пахмурнае... Ува мне адразу выбухнула вялікая колькасць розных эмоцый, бо час, праведзены ў Маскве, быў сапраўды вельмі прыемны. Я пад уражаннем ад сваіх успамінаў.

Таксама я ўражаны тым, што пабачыў на кніжнай выстаўцы. Тут людзі ўсё яшчэ вераць у кнігу. Я бачыў стэнды зусім маленькіх выдавецтваў, дзе прапануецца некалькі выдадзеных за апошні час кніг. Я разумею, што ніякіх грошай яны на гэтым не зарабяць, але ж займаюцца выдавецкай справай, бо вельмі шануюць кнігу. І мяне гэта надзвычай расчуліла, бо я ведаю зусім іншыя кніжныя кірмашы, напрыклад, Лейпцыгскі ці Франкфурцкі, з гіганцкімі памяшканнямі, можа, як 20 комплексаў «БелЭкспа». Яны больш падобныя да фабрыкі, канвеера, кніга там не мае нічога асабістага, яна ніяк не звязана з чаканнямі, спадзяваннямі людзей. А тут кніжная справа зусім не падобная да індустрыі. Бачна, што ўсім кіруе сапраўдная страсць да кнігі.

**— А вы верыце ў кнігу?**

— Так, веру. У Германіі ўвогуле цяпер вельмі складаная сітуацыя з кніжным рынкам, таму што выдаўцы і кніг, і газет заклапочаныя тым, што ў сувязі з татальнай дыгіталізацыяй настане канец друкаваных выданняў. Але асабіста я не люблю гэтыя планшэтнікі, экраны. Я не мог бы сабе ўявіць, што ўвечары ляжу ў ложку і чытаю нешта з экрана. Для мяне вельмі важна пагартаць кнігу, адчуць яе пах, я вельмі люблю пачуццё, калі трымаеш кнігу ў руках. Думаю, што свет без кніг быў бы жахлівы. Я цяпер часта праводжу пісьменніцкія майстэрні ў школах, сустракаюся з моладдзю і заўважаю, што для іх кнігі, газеты і часопісы больш не маюць ніякага значэння. Але з іншага боку, думаю, для большасці дарослых яны таксама не маюць значэння. Мы, людзі, якія чытаюць, — заўсёды меншасць. Таму ніякай катастрофы і абяцанай смерці кнігі не настане, проста друкаваныя выданні стануць даражэйшымі, але ўсё роўна застанецца меншасць, якая будзе іх чытаць. Больш за тое, кніга, як была, па-ранейшаму застанецца важным сродкам масавай інфармацыі, які выкарыстоўваецца, каб узрымаць дыскусіі ў грамадстве на культурныя і палітычныя тэмы. У нас, напрыклад, год ці два таму ўзнікла вельмі важная дыскусія наконт становішча мусульман у Германіі, і яна была выклікана кнігай Ціла Сарацына. Ёсць і іншыя прыклады. Але ні разу не было такога, каб дыскусія ўзнікла на глебе фільма, мастацкага твора ці скульптуры. Заўсёды былі кнігі.

# Залаты тэнар Марыінкі

На гэтым тыдні Вялікі тэатр Беларусі прымаў ганаровага госця — вядучага саліста Марыінскага тэатра Ахмеда Агадзі. Заслужаны артыст Расіі, народны артыст Татарстана выступаў на шматлікіх оперных сцэнах. У Вялікім тэатры Беларусі адзін з лепшых і найбольш запатрабаваных тэнараў сучаснасці выканаў партыі Вадэмона ў рамантычнай оперы «Іаланта» і партыі Каварадосі ў оперы «Тоска». Артыст з надзвычай прыгожым голасам і дзіўным лёсам расказвае пра сябе чытачам «ЛіМа».



*Фота прадастаўлена прэс-службай Марыінскага тэатра*

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ**

Я нарадзіўся на поўдні Казахстана, у горадзе Чымкент, у вялікай дружнай сям'і. Мой бацька — іранец, а маці — татарка, таксама ў мяне ёсць чатыры старэйшыя сястры і шэсць братоў. Так што з дзяцінства мы раслі не разбэшчанымі жыццём, радаваліся кожнай дробязі, вучыліся цаніць усе дарункі лёсу. Дарэчы, я адзіны з сям'і, хто вось так з'ехаў і пачаў жыццё ў іншай краіне.

**— А дзе цяпер ваш дом?**

— Амаль 30 год, як я жыву ў Расіі. Аднак на адпачынак заўсёды вяртаюся на радзіму, у Казахстан. Раней праводзіў у братоў і сясцёр больш часу, але ў мяне свая сям'я, жонка і сын, якія таксама мяне бачаць рэдка: я то ў Галандыі, то ў Францыі, цяпер — у Беларусі. Застаецца толькі тыдзень, каб з'ездзіць на радзіму. Аднак больш я сумую па Расіі: тут мой дом, мне падабаецца ўсё рускае. Я пастаянна гастралюю, шмат часу праходзіць у дарозе, цягніках, самалётах, гасцініцах. Але кожны артыст так жыве, і калі мяне перастануць запрашаць, буду адчуваць дыскамфорт: я нікому не патрэбны.

Лічу, кожны чалавек нараджаецца з пэўнай жыццёвай праграмай. Гадоў з пяці ведаў, што буду спеваком. Я пастаянна спяваў, мяне не маглі спыніць. Узгадваючы дзяцінства, разумею: у мяне быў толькі адзін шлях.

**— Многія любяць спевы, але не ў кожнага ёсць талент... Наколькі хутка адкрыўся ваш цёплы, ласкавы, «сонечны» тэмбр?**

— Пасля арміі я паступіў у музычнае вучылішча ў Навасібірску і літаральна праз паўгода з'явіліся першыя поспехі, пры тым, што я ўвогуле не меў музычнай адукацыі і ледзьве разумеў рускую мову. А ўжо на трэцім курсе мой фотаздымак быў на дошцы выдатнікаў, бо я дужа хацеў навучыцца спяваць. Потым я паехаў у Маскву і паступіў з першага разу ў Маскоўскую кансерваторыю. Гэта быў 1988 год, з усяго Савецкага Саюза прыязджалі людзі, таму быў вялізны конкурс: з 200 — 300 чалавек адбіралі 15. Пасля заканчэння кансерваторыі я трапіў у Музычны тэатр імя Станіслаўскага і Неміровіча-Данчанкі, дзе працаваў 11 гадоў. На сённяшні дзень я ўжо 8 год у Марыінскім тэатры.

**— Якім быў ваш дэбют на вялікай сцэне?**

— Першай маёй партыяй у Музычным тэатры Станіслаўскага быў Ленскі ў оперы «Яўгеній Анегін». Я так хваляваўся, што кружылася галава. Потым выконваў партыі Рудольфа ў «Багеме», графа Альмавівы ў «Севільскім цырульніку», праз некалькі гадоў ужо набраў «моцны» рэпертуар: Каварадосі ў «Тосцы», Хазэ ў «Кармэн», Калаф у «Турандот», Радамес у «Аідзе»... Спявак сам павінны адчуваць, калі голас ужо гатовы да выканання той ці іншай партыі. Прыходзіць сталасць, вакальны вопыт, жыццёвая мудрасць.

Што да тых роляў, якія я выконваў у Беларусі, Каварадосі — гэта ўвогуле адзін з маіх любімых вобразаў, спяваў яго разоў 500 — 600. Я проста «купаюся» ў гэтай партыі. А Вадэмона мне рэдка даводзілася выконваць, таму перад «Іалантай» вельмі хваляваўся.

## Арт-карагод

**Кацярына ЗВЕРАВА, Дзіяна КАРОЛЬ**

Галерэя «VILNIUS» бібліятэкі № 18 г. Мінска да 5 сакавіка запрашае на выстаўку, прысвечаную памяці полацкага жывапісца Анатоля Паўлыгі — яркага прадстаўніка класічнага рэалістычнага пейзажу. Палотны мастака — прызнанне ў любові да Полацка, яго маляўнічых наваколляў, да роднай зямлі ўвогуле. Прасякнутыя радасцю, спакоем, няўлоўнай лёгкасцю, яны падштурхоўваюць да філасофскіх разважанняў. Самыя звычайныя дэталі пейзажу — стагі, хаты, дрэвы — на карцінах мастака ствараюць гарманічнае адзінства, прыцягальнае адчуваннем глыбокага суперажывання, стрыманасцю каляровай гамы і сур'ёзнасцю, што родніць яго работы з карцінамі Левітана.

Эмацыянальная, пачуццёвая і таямнічая творчасць, у якой кожная праца напоўнена філасофскімі развагамі, метафарычнасцю і асаблівай вобразнасцю — так можна ахарактарызаваць жывапіс маладой беларускай мастачкі Таццяны Грыневіч. Завітайце на яе персанальную выстаўку «Прыцягненне», якая будзе праходзіць да 5 сакавіка ў мінскай «Галерэі Мастацтва», і паглыбіцеся ў свет рамантычнай фантазіі і душэўнага спакою. Творчыя працы Таццяны вызначаюцца складанай палітрай адценняў і перажыванняў.

Прэзентацыя дакументальнага фільма Ігара Бышнёва «Дачка Прыпяці» пра жыццё людзей у палескай вёсцы Пагост (Жыткавіцкі раён Гомельскай вобласці) адбылася ў сталічным кінатэатры «Цэнтральны». Створаная Беларускім Відэацэнтрам сумесна з дэпартаментам па кінематаграфіі Міністэрства культуры, кінааповесць доўжыцца 52 хвіліны. Па словах рэжысёра, «Дачка Прыпяці» — фестывальная карціна, яе паказы плануюцца на кінафорумах як Беларусі, так і за яе межамі. З вялікай колькасці аднятага матэрыялу, які не ўвайшоў у фільм, нарадзілася яшчэ адна дакументальная карціна — «Кола часу». Пабачыць яе можна будзе крыху пазней.

Эксклюзіўны арт-праект «Мастакі Парыжскай школы з Беларусі» распачаўся ў гомельскім палацы Румянцавых і Паскевічаў. Яго ініцыятарамі выступілі Белгазпрамбанк, Нацыянальная камісія Беларусі па справах ЮНЕСКА і Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь. Дадзены праект з'яўляецца ўнікальным для нашай краіны па стылістыцы і падачы выяўленчага матэрыялу, навізне і незвычайнасці фармату. Гамяльчане і госці горада пазнаёмяцца з шэдэўрамі мастакоў, якія нарадзіліся ў Беларусі і эмігрыравалі ў пачатку ХХ ст. у Францыю. Сярод іх — ураджэнец Гомеля Міхаіл (Мішэль) Кікоін.

Выстаўка эстампаў «Над каменем» выпускніцы Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Марыны Мароз будзе праходзіць да 7 сакавіка ў мастацкай галерэі «Акадэмія». У сваёй творчасці маладая мастачка звяртаецца да адвечных тэм прыроды і чалавека, спрабуе ўвасобіць у вобразах асабістыя перажыванні, адлюстраваць думку, прыпыніць імгненне. Марына супрацоўнічала з выдатным майстрам-друкаром Д. Малатковым.



## Водгалас

# Чалавечая памяць часам кароткая

У снежні 2012-га ў Выдавецкім доме «Беларуская навука» выйшла кніга «Беларускае канцэртна-выканальніцкае мастацтва: апошняя трэць ХХ — пачатак ХХІ стагоддзя».

Наша сям'я мае адносіны да закранутай у гэтым выданні тэмы і людзей, якія ў ім згадваюцца, таму мы лічым неабходным выказаць сваё меркаванне па раздзеле, які называецца «Харавое канцэртна-выканальніцкае мастацтва» (аўтар — музыказнаўца-даследчык, выпускніца вакальна-харавога факультэта Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Г. Цмыр). Тут дастаткова падрабязна распавядаецца пра развіццё прафесійнага і аматарскага харавога выканання ў Беларусі за апошнія 40 год, пададзены аўтабіяграфічны матэрыял музыкантаў — выкладчыкаў і хормайстраў. Аднак Валерый Аўраменка, вядомы прафесар, дэкан вакальна-харавога факультэта Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, мастацкі кіраўнік Народнай харавой капэлы Палаца культуры Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў, старшыня рэвізійнай камісіі Саюза музычных дзеячаў Рэспублікі Беларусь, згадваецца толькі аднойчы — як член творчай секцыі рэспубліканскага аргкамітэта па харавым мастацтве. І гэта пры тым, што В. Аўраменка ўсё жыццё аддана працаваў на ніве мастацтва, пацвярджэнне таму — шматлікія ганаровыя граматы, медаль «Ветэран працы», медаль Францыска Скарыны (2010), ён лаўрэат прэміі прафсаюзаў Беларусі за 1997 г. у намінацыі «За самадзейную творчасць працоўных», мае тры адзнакі Міністэрства культуры (СССР, Беларусі), Ганаровы знак МУС БССР, з'яўляецца членам Беларускага саюза музычных дзеячаў, нязменны старшыня яго рэвізійнай камісіі, мае Ганаровы знак БСМД, аўтар кнігі (у суаўтарстве з Л. А. Раманоўскай) «Беларусь у песні (вакальныя і харавыя творы за 70 год)».

Будучы студэнтам 5-га курса Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, В. Аўраменка працаваў у якасці кансультанта мясцовага энтузіяста харавых спеваў В. Пешкурова ў вёсцы Лань Нясвіжскага раёна, пасля была праца з хорам у Мінскім сувораўскім ваенным вучылішчы, кіраўніцтва мужчынскім хорам закрытага ваеннага вучылішча, арганізацыя хору медыцынскіх работнікаў 1-га клінічнага аб'яднання. Пачынаючы з 1970 года ўдзельнічаў у «рэанімацыі» Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы Беларусі, у 1979-м стаў першым дырэктарам Рэспубліканскага навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці і культасветработы. Любому студэнту і выпускніку вакальна-харавога факультэта Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі добра знаёмае імя былога дэкана В. Аўраменкі.

Пад яго кіраўніцтвам калектыў Народнай харавой капэлы Палаца культуры быў адзначаны дыпломамі на шматлікіх конкурсах як у Беларусі, так і за яе межамі, стаў лаўрэатам Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за высокія дасягненні ў эстэтычным выхаванні насельніцтва (2002), атрымаў званне заслужанага аматарскага калектыву Рэспублікі Беларусь (2003).

Кніга «Беларускае канцэртна-выканальніцкае мастацтва: апошняя трэць ХХ — пачатак ХХІ стагоддзя» пабачыла свет. Хочацца спадзявацца, што ў яе новых выданнях знойдзецца месца добраму слову ў адрас чалавека-прафесіянала, які сваё жыццё прысвяціў музыцы, харавому выканаўчаму мастацтву і студэнтам. Яго імя — Валерый Лявонцьевіч Аўраменка.

**Н. В. АЎРАМЕНКА, А. В. АЎРАМЕНКА, П. В. АЎРАМЕНКА**

Быхаў-2013

# Яе няспетая песня

Казачна-чароўная Быхаўшчына падарыла нам мноства цудоўных людзей. Сярод іх — Вольга Бутома-Названава — славутая спявачка ХХ стагоддзя з прыгожым і гучным голасам (мецца-сапрана). Яшчэ ў юнацтве ў яе выявіўся дакладны музычны слых і правільны, чысты голас. Акрамя таго, яна лёгка танцавала пад любую мелодыю. Дзяўчынка марыла пра сцэну. У 1915 годзе Вольга скончыла Пецярбургскую кансерваторыю. Артыстцы шматграннага таленту, ёй у аднолькавай меры ўдавалася бліскуча ўвасобіць на сцэне драматычныя і лірычныя творы Глінкі, Мусаргскага, Даргамыжскага. Яна на дзіва прыгожа спявала беларускія, рускія, украінскія народныя песні, а таксама песні на французскай, італьянскай, нямецкай мовах. Яе выкананне вылучалася выразнасцю і чысцінёю інтанацыі.

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ**

Асаблівае месца ў рэпертуары спявачкі займалі творы рускіх і замежных кампазітараў. Осіп Мандэльштам, які часта слухаў выступленні Прымадонны, прысвяціў ёй верш, у якім ёсць такія радкі: «В тот вечер не гудел стрельчатый лес органа. // Нам пели Шуберта — родная колыбель! // Шумела мельница, и в песнях урагана // Смеялся музыки голубоглазый хмель».

Сярод яе сяброў і паклоннікаў былі піяніст Г. Нейгаўз, пісьменнік Л. Лявонаў, рэжысёр Ю. Завадскі. Плённыя творчыя стасункі звязвалі выдатную спявачку з А. Блокам, С. Ясеніным, І. Севяраніным, Г. Ахматавай. А Ф. Салагуб прысвяціў ёй натхнёны мадрыгал:

*О вдохновенная певица!*
*Зажги огни и сладко пой,*
*Чтоб песня реяла, как птица,*
*Над очарованной толпой.*

Вольгу Бутома-Названаву характарызавала чуласць да ўсяго цудоўнага, тонкі культурны густ і, нарэшце, тая ступень мастацкага інтэлекту, якая неабходна для камерных выканаўцаў. Ёй адной з першых майстроў мастацтва СССР дазволілі выехаць з гастролямі ў Берлін і Парыж. Дакладна невядома, ці наведвала яна тады, у 1926 годзе, Манмартрскія могілкі, дзе знайшла свой апошні прытулак Тэрэза Анжэліко Абры — былая оперная зорка французскай сцэны, якая ў 1793 годзе іграла ў саборы парыжскай Багамаці, выступала ў нечуванай ролі — Багіні Розуму. Лёс Абры ўражвае. Вялікая французская Рэвалюцыя супала з росквітам яе прыгажосці, маладосці і таленту. На яе вачах пачало гінуць тое жыццё, у якім яна нарадзілася, расла, марыла.



Новы Быхаў. Дняпро.

Амаль такі ж лёс спасціг і нашу зямлячку. Яна вітала Вялікую кастрычніцкую сацыялістычную рэвалюцыю, верыла ў яе ідэалы. Таму для яе былі адкрыты сцэнічныя пляцоўкі ўсіх буйных гарадоў Саюза. Талент спявачкі высока цаніў сам наркам Луначарскі.

Але шчасце ў той палітычнай мітусні не магло доўжыцца бясконца. Пры загадкавых абставінах памірае муж Міхаіл Названаў — буйны інжынер-тэхнолаг. Вольга Мікалаеўна цяжка захварэла і пакінула сцэну. А праз год арыштавалі сына — аднаго з вядучых артыстаў МХАТа. У свае дваццаць восем гэта быў ужо сталы майстар, які літаральна ўварваўся ў кінематограф («Жди меня», «Иван Грозный»). Прырода надзяліла яго высокім ростам, унікальным голасам, бездакорнай музыкальнасцю.

Вольга Мікалаеўна ўсё лета насіла ў Бутырку перадачы: дамашнія катлеты, агародніну — і не здагадалася перадаць сыну боты ці валёнкі. У ссылку ён адправіўся ў асеннім паліто і стаптаных чаравіках. Толькі праз месяц паведаміў свой паштовы адрас: «Паўночны край, Комі вобласці, горад Чыб'ю. Ухтпечлаг». Лагер знаходзіўся ў басейне рэк Ухты і Пячоры, там seклі лес, здабывалі вугаль і нафту, будавалі дарогу Котлас—Варкута. У глухім лесе артыст ад Бога цягаў тачку, да якой быў прykаваны ланцугом. Маці пра гэта — ні слова. Наадварот, паведамляў, што ў іх моцны мароз, але яму цёпла: ходзіць у бушлаце, целагрэйцы, ватных штанах. Прасіў выслаць «кіло рысу, кіло проса, два кіло цукру, солі, цыбулі, алавяную лыжку, алоўкі і канверты».

У студзені 1936 года Паўночны крайвыканкам прыняў пастанову аб стварэнні ў рэгіёне новых тэатраў, у тым ліку і ў Чыб'ю. Міхаіла Названава прызначылі на пасаду артыста і загадалі да пушкінскага вечара падрыхтаваць сцэны «Каменнага госця». Ён з радасцю дзяліўся навіной з мамай і прасіць дапамогі. Вольга Мікалаеўна высылае яму грым, парыкі, аксесуары, касцюмы, ноты, кнігі. Бегала па ламбардах, прадавала свае рэчы, пазычала грошы ў знаёмых.

Лагернае начальства «прапаноўвала» Міхаілу ўсё новыя ролі. Каб падтрымаць яго, маці накіроўваецца ў Чыб'ю, уладкоўваецца ў доме вольнаперасяленцаў. Яна стала адным з пастаноўшчыкаў аперэты «Гейша» С. Джонса. Падбірала «зэчак» з патрэбнымі галасамі, майстравала ім адпаведную вопратку. М. Названаў выконваў ролю матроса Ферфакса.

Пасля спектакля Вольга Мікалаеўна паехала дамоў, а Міша перабраўся ў свой барак з аблезлымі сценамі, на зношаны тапчан.

Яна не паспела як след адпачыць пасля доўгай і цяжкай дарогі, як у кватэру пастукалі людзі ў скураных тужурках. А хутка ёй аб'явілі прысуд — тры гады ссылкі. За што? Выступала ў логаве германскага нацызму? Значыць, нямецкая шпіёнка! У Фрунзэ (цяпер Бішкек) актрыса жыла да 1945 года. Як сведчаць афіцыйныя дакументы, «брала актыўны ўдзел у падрыхтоўцы кіргізскіх майстроў опернай сцэны». У адным можна не сумнявацца: вучні ганарыліся сваёй настаўніцай, любілі яе.

Міхаіла Названава вызвалілі вясной 1939 года, аднак ехаць яму не было куды. Бацькі няма. Да маці — нельга. Каханая дзяўчына бясследна знікла. У маскоўскай кватэры жывуць чужыя людзі. У былых сяброў-мхатаўцаў таксама незайздросныя лёсы. І ён вымушаны быў застацца ў Чыб'ю (пазней — пасёлак Ухта), працаваць у мясцовым тэатры. Спектаклі з яго ўдзелам праходзілі з аншлагам.

Напрыканцы жыцця В. Бутома-Названавай дазволілі вярнуцца ў Маскву. Яна памерла 11 мая 1960 года, пахавана на Новадзявочых могілках побач з мужам.

Зразумела, гэта няпоўны аповед пра нашу былую багіню опернай сцэны. Будзем спадзявацца, гісторыкі, мастацтвазнаўцы яшчэ раскажуць пра яе жыццё і творчасць больш цікава і падрабязна. А ўдзячныя быхаўчане ўвекавечаць яе памяць.

**Газета «Літаратура і мастацтва» — інфармацыйны партнёр Свята беларускага пісьменства.**

Цікава ведаць

# З гісторыяй на «ты»

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**

Калі мы глядзім ваенныя кінастужкі ці спектаклі, назіраем за гістарычнымі рэканструкцыямі, наўрад ці задумваемся над тым, хто ж стварыў адзенне для салдат і афіцэраў, рукі якіх адмысловых майстроў яго пашылі. Па адказ на гэтыя пытанні я накіравалася ў Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Гандлёва-вытворчае ўпраўленне пры Міністэрстве абароны».

Зразумела, асноўная задача аднаго з яго падраздзяленняў — выраб і пашыў форменнага адзення для прадстаўнікоў амаль усіх сілавых структур нашай краіны: салдат і афіцэраў Міністэрства абароны і Ўнутраных спраў, Дзяржаўнага пагранічнага камітэта, унутраных войскаў Рэспублікі Беларусь, Галоўнага ваеннага аркестра ўзброеных сіл Беларусі, у тым ліку і для работнікаў пракуратуры. Галоўнае месца, дзе ўжо шмат дзесяцігоддзяў шыюць менавіта па індывідуальных заказах форменныя строі, — Дом ваеннага адзення, адзіны ў краіне.

— Мабыць, самая ганаровая і вельмі адказная місія для нашых шаўцоў — падрыхтоўка камплектаў адзення для роты ганаровай варты Беларусі, — зазначыў начальнік комплексу бытавых паслуг РУП Аляксандр Караленя. — Як толькі прайшоў новы прызыў, мы адразу прыступаем да выканання адпаведных заказаў. Атрымоўваецца, што два разы на год абавязкова рыхтуем новыя кіцелі, брыджы, зімовыя паліто, фуражкі і боты. А хлопцы ў роце ганаровай варты ўсе як на падбор — высокія, зграбныя, таму створанае ў ваеннай майстэрні адзенне пасуе ўсім. У будучым плануем шыць спецыяльнае, прытым прыгожае і сучаснае адзенне для работнікаў свайго РУП. У сакавіку пашыраемся — адкрываем новы швейны цэх.

Трыццаць пяць гадоў працуе закройшчыкам у Доме ваеннага адзення Ігар Унук. За гэты час выканаў некалькі тысяч заказаў, былі заяўкі і ад камандуючых ваенных акруг, і ад міністраў абароны. Да гонару беларусаў, у іх такіх пытанняў з якасцю тканіны для форменнага абмундзіравання, як у апошні год у расіян, не ўзнікала. Але, як прызнаўся Ігар Леанідавіч, цяжэй за ўсё шыць для жанчын, якіх у нашай арміі ўсё больш і больш. Вельмі ўжо яны патрабавальныя.

І не дзіўна, бо прадстаўніцы слабога полу і ў форменным адзенні хочуць выглядаць прывабна і модна. Хаця, аказваецца, для жанчын-ваеннаслужачых, напрыклад, спадніцы крояць згодна са стандартамі, распрацаванымі яшчэ ў 1955 годзе. Так, пры росце 170 — 176 см гэтая частка жаночай формы павінна мець «італьянскую» даўжыню — 58 см, крыху ніжэй калена. Толькі цяпер дазволілі, да вялікай радасці жанчын, крыху ўкарацідь спадніцы. «Іншы раз падумаеш, што лягчэй дзесяць пар штаноў для мужчын пашыць, чым адну спадніцу для жанчыны», — усміхаецца майстар.

Асобная і вельмі цікавая старонка ў рабоце швейнікаў — стварэнне гістарычных касцюмаў. Пачыналася ўсё ў дзевяностыя гады мінулага стагоддзя. І з тых часоў ваенныя майстры пастаянна шыюць розныя камплекты для Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм», расійскіх кінавытворцаў, многіх айчынных тэатраў і музеяў. Прынамсі, толькі летась падрыхтавалі строі прыкладна да дзесяці кінастужак. Звычайна паступае заказ на форму пэўнага перыяду, канкрэтнага роду войск той ці іншай краіны. У закройшчыка Дома ваеннага адзення Дзмітрыя Невяровіча маецца цэлы архіў разнастайнай гістарычнай літаратуры ў электронным варыянце, таму праблем з выбарам мадэлі і аксесуараў не ўзнікае. Калі патрэбна ўдакладніць нейкія дэталі, дапамагаюць кансультанты «Беларусьфільма», супрацоўнікі музеяў, члены гістарычных клубаў, вядомыя калекцыянеры. Іншы раз цэлы месяц шукаюць ва ўсіх крыніцах той ці іншы ўзор. Адным словам, праца ў закройшчыка гістарычных строяў складана-творчая і патрабуе шмат намаганняў. Бывае, што прыязджаюць і да Дзмітрыя па кансультацыю — настолькі ён у «тэме». Калі хтосьці думае, што ваенныя майстры шыюць адно і тое ж, то глыбока памыляецца: праз іх рукі прайшла, можа, тысяча відаў формы розных часоў і народаў.

— Здараецца і так: сёння паступіў заказ, а ўжо назаўтра раніцай трэба падрыхтаваць рэч для здымкаў троххвілінnай карцінкі, — распавёў закройшчык. — І шылі яе ў сціслы тэрмін, бо пасля абеду яна ўжо



Дзмітрый Невяровіч паказвае ўласнаручна пашыты кіцель, які насілі расійскія афіцэры на пачатку ХХ ст.

не патрэбна. Шмат камплектаў адзення ўзору 1907 года стварылі для гістарычнай стужкі знакамітага расійскага рэжысёра Мікіты Міхалкова, здымкі якой праходзілі летась.

Так атрымалася, што Дзмітрый Невяровіч, як кажуць, прыклаў руку і да стварэння сучаснай ваеннай беларускай формы. Тое, што прапанавалі ў першыя гады існавання незалежнай Беларусі нашы мадэльеры, вельмі многім прыйшлося не даспадобы, бо новая форма была больш падобная да абмундзіравання амерыканскіх ваеннаслужачых. Варыянт адзення, прапанаваны ваенным майстрам, быў ухвалены, а потым яго дапрацавалі і зацвердзілі як узор для беларускіх вайскоўцаў.

Не адстаюць ад сваіх настаўнікаў і маладыя спецыялісты. Прынамсі, закройшчыца Вольга Янушка рыхтуе аўтарскую калекцыю для прадстаўлення на ХХІІ Рэспубліканскім фестывалі-конкурсе моды і фота «Млын моды-2013». Вольга самастойна распрацавала дзесяць камплектаў адзення ў так званым стылі «мілітары».

# Прапаведніца духоўнасці

**Іван КАНДРАТАЎ**

За творчасцю таленавітай, непаўторнай пісьменніцы Марыі Філіповіч я сачыў даўно. З цікавасцю і асалодай чытаў яе апавяданні і абразкі, якія рэгулярна друкаваліся ў рэспубліканскіх часопісах і газетах. Добрыя, натхняльныя словы не раз даводзілася чуць пра яе творы ад пісьменніка Уладзіміра Дамашэвіча, які ў часопісе «Маладосць» быў загадчыкам аддзела прозы.

Неўзабаве пашчасціла пазнаёміцца з ёю асабіста. У той час я працаваў у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Рэдакцыяй прозы загадваў вядомы пісьменнік Васіль Хомчанка. Складалі выдавецкі план на 1987 год. Сталі размяркоўваць рукапісы. Ён тады і кажа: «У першую чаргу адрэдагуй і здай у вытворчасць кнігу таленавітай маладой аўтаркі Марыі Філіповіч. З яе творчасцю, мяркую, ты знаёмы».

Я з задавальненнем згадзіўся. Гэта быў рукапіс кнігі «Мадонна з Выселкаў». З тых часоў з Марыяй Філіповіч мы сталі сапраўднымі сябрамі. Пры сустрэчах заўсёды дзяліліся сваімі ўражаннямі пра літаратурныя навінкі, радаваліся новым знаходкам і адкрыццям.

Што да яе творчага патэнцыялу, то мяне надзвычай глыбока кранулі яе апавяданні «Начное дзяжурства», «Чужая бяда», «Дзень нараджэння», «Мадонна з Выселкаў», «Сустрэча»; абразкі «Мужнасць», «Падарунак сыну», «Заступіліся», «Горкая чаромха» і іншыя.

Яе проза вызначаецца выразнай, сакавітай мовай, глыбокім псіхалагізмам, дакладнай, афарыстычнай лексікай. Вобразы і характары герояў кранаюць душу сваёй непасрэднай праўдзівасцю, чысцінёй пачуццяў. Гэтыя мастацкія вартасці заўважаем у кожным творы пісьменніцы, дзе ў цэнтры ўвагі — чалавек, асоба са сваімі поглядамі на жыццё і перажываннямі. Такая яе Майка — вясковая школьніца-падлетак з апавядання «Дзень нараджэння», — ці Аксіння з «Мадонны з Выселкаў», ці Савельеўна з апавядання «Дзень першы». Гэтыя і іншыя героі розныя па характарах, роду заняткаў і псіхалогіі, але з'яднаныя высокай духоўнасцю, дабрынёй і чуласцю да чалавека. Такімі рысамі Бог шчодра надзяліў саму пісьменніцу.

Марыя Філіповіч адносіцца да тых аўтараў, кнігі якіх хочацца перачытваць, каб адкрыць для сябе новае, непазнавальнае і прыгожае, адчуць трапяткое дыханне жыцця і чалавечых пачуццяў.



**Даведка «ЛіМа»:**

*Марыя Філіповіч нарадзілася 1 студзеня 1947 года ў вёсцы Смётанка Аршанскага раёна Віцебскай вобласці ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння Дубровенскай сярэдняй школы паступіла ў Магілёўскае медыцынскае вучылішча. Працоўнае жыццё пачала медсястрой у г. Аленегорск Мурманскай вобласці. Потым вярнулася ў Беларусь, працавала фельчарам. Нарадзіла дачку і сына. У 1974 годзе паступіла ў маскоўскі Літаратурны інстытут імя М. Горкага. У 1980-х пачалася яе журналісцкая дзейнасць: працавала карэспандэнтам газет «Трибуна новатора», «Набат», а з 1992 па 1995 год — газеты «Рэспубліка». Яе творы часта друкаваліся ў літаратурнай перыёдыцы. Аўтар кніг «Мадонна з Выселкаў», «Пра Алеся і яго сяброў», «Клетка для каханай». У 1995 годзе Марыя Канстанцінаўна стала адной з заснавальніц газеты «Чистый мир», а ў 1999 — галоўным рэдактарам праваслаўнай газеты «Воскресение». 16 лютага 2003 года яна нечакана пайшла з жыцця...*

# Знаёмства, якое змяніла лёс

Бываюць сустрэчы, якія пакідаюць толькі ўспаміны — светлыя ці не. А бываюць такія, пасля якіх жыццё раптам робіць круты паварот, і патрэбны час, каб асэнсаваць, якую вялікую ролю адыграў у тваім лёсе нечакана сустрэты чалавек. Такім знакавым для мяне стала знаёмства з пісьменніцай, журналістам і жанчынай вялікай душы Марыяй Філіповіч.

**Алена МІХАЛЕНКА**

Упершыню мы сустрэліся на вечарыне духоўнай паэзіі ў старым будынку Нацыянальнай бібліятэкі. Было тое вясной 2000 года. Пасля канцэрта да мяне падышла вельмі сціплая, інтэлігентная і немаладая ўжо жанчына. Сказала, што з'яўляецца галоўным рэдактарам праваслаўнай газеты «Воскресение», і папрасіла даць для публікацыі мой верш пра Еўфрасінню Полацкую. Для мяне гэта быў вялікі гонар. Газета мне вельмі падабалася, але не думала, што знаёмства працягнецца.

У верасні я пайшла працаваць у школу, дзе паглыблена вывучалася англійская мова. Там упершыню сутыкнулася з традыцыяй святкаваць Хэлоўін. Як гэта можа быць у хрысціянскай краіне — паганскае, нават сатанінскае свята, хоць і пераўтворанае ў карнавал?! Я не ведала, што рабіць ад бяссілля і абурэння. Знайшла тэлефон Марыі Канстанцінаўны. Як і многія чытачы, я перабольшвала магчымасці журналістаў... «Можа, у вас у газеце ёсць нейкі матэрыял, каб я магла паказаць яго калегам, адгаварыць ад гэтага нядобрага свята?» — амаль што крычала я ў слухаўку. «Няма ў нас такога матэрыялу. Але тэма важная, цікавая, такі артыкул вельмі патрэбны, — адказала яна. І нечакана дадала: — Вось вы і напішыце. Вы ж валодаеце словам. У вас атрымаецца». Спярша я здзівілася. Але адступаць здавалася немагчымым. Так я пачала працаваць над сваім першым артыкулам. Давялося шукаць гістарычныя карані гэтага «свята», размаўляць з яго ўдзельнікамі, прасочваць лёсы артыстаў, якія наважыліся іграць ролі нячысцікаў. Матэрыял атрымаўся.

Потым было яшчэ некалькі даручэнняў, і нарэшце Марыя Канстанцінаўна прапанавала мне стаць пазаштатным карэспандэнтам газеты.

Яна выглядала нястомнай, поўнай энергіі і планаў. Уся работа «рэдакцыі» праходзіла ў яе дома, у невялікай кватэры на Нямізе. Тут быў старэнькі камп'ютар, шмат кніг, лістоў ад чытачоў. Сюды прыходзілі супрацоўнікі і аднадумцы. Цяжка цяпер уявіць сабе тую работу: амаль ніхто з аўтараў не меў магчымасці дзе-небудзь набраць тэкст, а пра электронную пошту нават не ведалі. Дзякуй Богу, знайшліся ў Марыі памочнікі, якія набіралі матэрыялы, расшыфроўвалі дыктафонныя запісы. Добрых аўтараў было няшмат, за некаторых Марыя Канстанцінаўна амаль усё перапісвала... Ездзіла дамоў да вярстальшчыцы, да позняй ночы рыхтавала газету. Пільна сачыла за выхадам кожнага нумара ў цэхах Дома друку. Усхвалявана чакала лістоў-водгукаў.

Вельмі цікава было даведацца пра лёс гэтай жанчыны. Гадавала яе бабуля, якая, пэўна, і заклала ў душу прагу да высокай духоўнасці і веры. Жыццё ў вёсцы, праца ў медыцыне, дзе давялося сустрэцца з чалавечым болем, — усё гэта знайшло ўвасабленне ў цудоўных апавяданнях Марыі Філіповіч.

Калі ў 1990-х абрынулася ідэя дзяржаўнага атэізму, людзі пачалі шукаць духоўнасць. Але гэта было не так і лёгка: здавалася, што ў былую савецкую краіну рынуліся прапаведнікі ўсіх рэлігій свету, а таксама сектанты. Цікавасць да астралогіі, паранармальных з'яў і акультызму была невераградная! Тады і стварылася газета «Чистый мир». Чаго там толькі не друкавалася — ад гараскопаў да абмеркавання рэлігійных дактрын. Чытачоў было шмат, пераважна — інтэлігенцыя. Многія куплялі газету толькі дзеля таго, каб прачытаць казкі Марыі Філіповіч. Незвычайныя, падобныя да прыпавесцей, яны вялі ў цудоўны свет фантазіі, далей ад цяжкасцей рэчаіснасці...

Але, шукаючы і памыляючыся, Марыя знайшла сапраўды чыстую крыніцу — Праваслаўе. У Евангеллі, у творах святых айцоў яна адшукала адказы на галоўныя пытанні жыцця. Сумленне не дазволіла далей весці тысячы чытачоў у тупікі акультызму. Яна пайшла з рэдакцыі... Гэта быў учынак — пакінуць выданне, якое карыстаецца вялікім попытам і прыносіць немалыя сродкі, дзеля таго, каб служыць Ісціне.

Па благаславенні Мітрапаліта Філарэта Марыя Філіповіч стварыла газету «Воскресение» для бацькоў, настаўнікаў і дзяцей. Галоўнай тэмай выдання было духоўнае выхаванне. Памятаю яе аповед пра тое, як усё пачыналася: расказала сябрам пра задумку. Пусцілі па коле капялюш. Кожны даў, колькі змог. Сабралася каля ста долараў. Гэтага хапіла на першы нумар... Усё было вельмі няпроста. Неставала сродкаў, аўтараў. Гадзінамі Марыя выстойвала ў розных прыёмных: то ў Міністэрстве адукацыі, дзе намагалася давесці неабходнасць духоўнай асветы, то ў епархіі, каб заручыцца падтрымкай святароў...

Яна не любіла расказваць, як стамілася. Але вельмі сумавала: ад таго, што не хапала часу на літаратурную працу, нават не паспявала хадзіць у храм. Пайшла з жыцця яна нечакана. Вечарам адчула сябе дрэнна, выпіла сардэчныя лекі і прылягла. Назаўсёды. Калі развіталіся з Марыяй Філіповіч, вельмі многія выказвалі думкі, што і газета наўрад ці будзе жыць... Але тыя, хто дапамагаў ёй у рэдакцыйнай справе, вырашылі хаця б паспрабаваць працягнуць працу. Сярод нас не было ніводнага прафесійнага журналіста, які мог бы ўзначаліць выданне. Сваю кандыдатуру я таксама годнай для такой пасады не лічыла.

Але потым, дзесяці праз паўгода, прыйшло разуменне, што гэта не столькі пасада, колькі цяжкі крыж... У мяне ўжо выйшла некалькі кніг і быў неблагі досвед настаўніцкай працы. Спадзявалася, што гэта дапаможа. Так на доўгі час мой лёс аказаўся звязаны з газетай «Воскресение».

Змяніліся абставіны, мяняюцца тэмы: дзесяць год — немалы тэрмін. Але жыве праца Марыі Філіповіч. Жыве памяць пра яе. Жывуць дзясяткі людзей, якія кожны дзень узносяць малітвы за супакой яе душы.

# Яму сніліся бярозы...

Губляць сяброў надзвычай цяжка. Не перадаць словамі, што адчуваеш, калі раптам — як маланка сярод яснага дня — ударыць па табе вестка: чалавека, з якім некалі з'еў не адзін пуд солі, не стала.

**Васіль ТКАЧОЎ**

15 студзеня ў мяне быў цяжкі дзень. Вельмі цяжкі: я страціў Міколу Еляняўскага. Невылечная хвароба пазбавіла сям'ю бацькі, мужа і дзядулі, чытачоў — таленавітага пісьменніка, мяне — сябра.

З Міколам я пазнаёміўся ў 1970 годзе, калі закончыў першы курс факультэта журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча. А Мікола Еляняўскі толькі паступіў. На факультэце вучылася не так і шмат чалавек, а беларусаў — і таго меней, таму мы ўсе добра ведалі адзін аднаго. А я асабліва сышоўся з Міколам. Радаваўся, калі ён скончыў наша вучылішча з залатым медалём, а яго прозвішча было выгравіравана на дошцы пашаны, якая адразу кідаецца ў вочы, калі заходзіш у галоўны вучэбны корпус. Мікола меў права выбару пры размеркаванні, і ён пачаў служыць у адной з газет ГСВГ (групы савецкіх войскаў у Германіі). Потым была Расія, пазней — Узбекістан. Мне навіта пра той час яго раман «Пакутнікі і фарысеі», надрукаваны ў «Нёмане» (№7 — 8 за мінулы год). Сёння я вельмі ўдзячны гэтаму часопісу: ён падарыў цяжкахвораму пісьменніку колькі шчаслівых хвілін. А мо і дзён.

У цэнтры твора — лёс афіцэра-верталётчыка беларуса Луняніна (Мікола, заўважым, з в. Лунін Лунінецкага раёна, там ён нарадзіўся ў 1948 г.) і яго таварышаў, якія неслі нялёгкую вайсковую службу ў Сярэдняй Азіі. Пісьменнік добра ведае матэрыял, які прапануе чытачу. Ваенны журналіст, ён аб'ездзіў увесь Узбекістан, з надзвычайнай цеплынёй апісвае прыгажосць гэтага краю і ў той жа час заваструе ўвагу на рэзкіх пераменах, што адбываліся ў грамадстве.

М. Еляняўскі раней быў вядомы як аўтар раманаў «Час пастыра» і «Нагрудны крыж». Тры раманы дайшлі да чытача. Сур'ёзныя, створаныя сапраўдным майстрам слова. Пісаў ён на рускай мове. І калі надарыўся выпадак выдаць свой раман «Час пастыра» ў серыі «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі», Мікола папрасіў мяне падрыхтаваць прадмову да гэтага твора. Я ахвотна пагадзіўся, тым больш што з раманам быў добра знаёмы, і неўзабаве адправіў яму пяць старонак тэксту. Назаўтра гэты ж тэкст быў у выдавецтве «Чатыры чвэрці».

Я ведаў, як М. Еляняўскі працаваў над раманам-хронікай. Калі я разам з жонкай гасцяваў у яго ўтульнай пінскай кватэры, ён дзяліўся планамі, паказваў старадрукі, над якімі трымцеў, як над найвялікшай каштоўнасцю. Я разумеў яго. Таму што ведаў, як няпроста ішоў да гэтай працы пісьменнік, як паважліва ставіўся да яе. Ці не ўпершыню ў Беларусі ён увасобіў у такім буйным жанры, як раман, лёсы святароў, жыццё якім выпала ў XIX — XX стагоддзях.

І ён напісаў твор, які заўважылі! Пазней у епархіі былі ўручаныя прэміі пераможцам рэспубліканскага творчага конкурсу на лепшае асвятленне гісторыі і сучаснасці беларускага праваслаўя ў СМІ. Дыпломам першай ступені быў узнагароджаны Мікола Еляняўскі за раман-хроніку «Час пастыра».

На Дні беларускага пісьменства ў Ганцавічах у 2011 г. Мікола падпісаў мне кнігу. Бачыліся мы тады апошні раз. За колькі дзён да сыходу Міколы ў іншы свет патэлефанаваў яму. Я ведаў, што Новы год ён сустракаў у лякарні, а цяпер быў ужо дома. Па голасе зразумеў, як цяжка яму, як няпроста. Пажадаў мужнасці. Пажадаў трымацца. Каб жа нашы пажаданні ды збываліся...



Верыцца, што Брэсцкае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі паклапоціцца, каб да чытача дайшло ўсё лепшае, што паспеў напісаць М. Еляняўскі.

# Перспектывы традыцыяналізму

Сучаснае беларускае мастацтва дзякуючы сваёй выдатнай прафесійнай школе і насуперак ультрамадэрністычным прагнозам захоўвае лепшыя еўрапейскія традыцыі жывапісу, графікі, скульптуры і іншых відаў і жанраў, не спяшаецца пераходзіць на кідкія акрылавыя пано, якія імітуюць плакатна-рэкламны прынт, вулічныя графіці, тэкстыльныя роспісы і да т. п. У беларускім жывапісе традыцыяналізм акрэсліўся як адзін з сучасных кірункаў, ён аб'ядноўвае вялікае кола мастакоў розных пакаленняў, у асноўным сканцэнтраваны на камерных жанрах.

**Яўген ШУНЕЙКА**



З 1990-х гадоў актыўную пазіцыю ў гэтым кірунку займае мінскі мастак Мікалай Мішчанка, які доўгі час быў больш вядомы як арганізатар мастацкага жыцця і педагог БДПУ імя М. Танка. Творчае развіццё аўтара, аднаго з лепшых выпускнікоў мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педагагічнага інстытута, было прадстаўлена на этапнай персанальнай выстаўцы «Прысвячэнне» яшчэ ў студзені-лютым 2010 г. Шматлікія пейзажы, напісаныя з натуры ў розных рэгіёнах Беларусі і Заходняй Расіі, былі прасякнуты такой ненадуманай прыроднай красой, што гэта выклікала аднадушнае прызнанне самых розных патрабавальных гледачоў, якія прыйшлі падзівіцца на творы «новага пейзажыста».

Працуючы доўгі час у Міністэрстве культуры, М. Мішчанка з 2003 г. наладжваў міжнародныя мастацкія пленэры, прысвечаныя памяці класікаў пейзажнага жывапісу В. Бялыніцкага-Бірулі і В. Цвіркі, з'яўляўся іх актыўным удзельнікам. Творчыя пленэры зблізілі яго з беларускімі пейзажыстамі розных пакаленняў: Л. Дударэнкам, Р. Ландарскім, М. Казакевічам, Б. Первунінскіх і інш. У славутым пленэрным асяродку Расійскага саюза мастакоў «Акадэмічная дача імя Ільі Яфімавіча Рэпіна» ён пасябраваў з выдатным расійскім мастаком В. Сідаравым, блізка пазнаёміўся з аўтарытэтнымі жывапісцамі старэйшага пакалення братамі А. і С. Ткачовымі, ураджэнцамі Міншчыны. Усё гэта абумовіла яго бліскучую жывапісную эвалюцыю. Сярод запамінальных краявідаў майстра — «Вуліца ў Мазыры» (2003), «Майская навальніца» (2008), «Сядзіба мастака Альфрэда Ромера» (2012) і інш.



*«Перад навальніцай», 2008 г.*

У кожным творы аўтар праяўляе сябе як тонкі назіральнік навакольнага хараства. Уважліва разглядаючы яго пейзажы, можна паглыбіцца ў цішу і мірнае жыццё, растварыцца ў пранікнёнай маляўнічай атмасферы.

У жывапісным стылі М. Мішчанкі ўпэўнена спалучаюцца выдатная дасведчанасць у вырашэнні кампазіцыі камерных пейзажных матываў з выяўленнем галоўнай вобразнай ідэі, згарманізаваным каларытам, неабходным абагульненнем асветленых і ценявых частак зеляніны, нябёсаў, пярэдняга і задняга планаў. Можна лічыць мастака шчырым паслядоўнікам творчых пошукаў С. Жукоўскага, Ю. Пэна, Г. Бжазоўскага і інш., якія зрабілі значны ўплыў на развіццё беларускага пейзажнага жывапісу ў рэалістычным стылі.

Не менш значнымі бачацца здабыткі М. Мішчанкі ў тэхніцы акварэльнага жывапісу, яго пейзажы і нацюрморты адрозніваюцца чыста акварэльнай празрыстасцю і артыстычнасцю крыху «незавершанага» выканання пры спалучэнні метадаў лесіроўкі і «а ля прыма» ў адлюстраванні кветак, садавіны, белага снегу. Мастак-акварэліст акрэсліў кірунак сваіх пошукаў у шэрагу ўдалых твораў «Збанок з рабінай» (1994), «На беразе возера» (1999), «Снежная зіма» (2003) і інш.

Арганізацыйны вопыт М. Мішчанкі спатрэбіўся і для пошуку новых экспазіцыйных пляцовак. Па ўласнай ініцыятыве і пры падтрымцы зацікаўленых арганізацый ён наладжвае сумесныя і персанальныя выстаўкі алейнага і акварэльнага жывапісу ў абласных і раённых цэнтрах Беларусі (Лепель, Горкі, Вілейка, Валожын, Мар'іна Горка, Магілёў, Віцебск), што на сённяшні дзень рэдкая з'ява для сталічных майстроў. У гэтым яму бачыцца вялікая сучасная місія прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі: несці і дзяліцца сваімі творчымі здабыткамі з рэгіянальнымі гледачамі, якія не маюць магчымасці наведваць мінскія мастацкія экспазіцыі. На яго думку, у раённых цэнтрах мастакоў успрымаюць з большай павагай і цеплынёй, чым гэта можна назіраць у сталіцы, дзе выдатныя творчыя выстаўкі не заўсёды становяцца прыкметнай з'явай. Мяркуючы па рэакцыі ў мясцовым друку, па колькасці наведвальнікаў, такая ініцыятыва вартая павагі.

М. Мішчанка браў удзел у 2010-х гг. у раённых пленэрах пейзажнага жывапісу ў Мозыры, Крупках, Уздзе, Паставах і іншых каларытных мясцінах. У творцы ўжо ёсць ужо надзейныя аднадумцы-традыцыяналісты, якія захопленыя такімі наватарскімі пленэрнымі праектамі.

Сёлета 21 лютага ў Нацыянальным мастацкм музеі Беларусі, дзе мастак працуе загадчыкам экспазіцыйнага аддзела, адбудзецца адкрыццё яго трэцяй персанальнай выстаўкі «Вандроўкі з эцюднікам», якая складаецца з твораў апошніх гадоў. Жывапісная справаздача стане чарговым этапам у творчай эвалюцыі мастака, які знайшоў сваю сапраўдную крыніцу натхнення і нястомна рупіцца пра тое, каб не парушаліся нашы эстэтычныя сувязі з прыродным харастворм.

# Сад са снегу і лёду

Завітаўшы ў Цэнтральны батанічны сад НАН Беларусі ў мінулую суботу, можна было патрапіць на адкрыццё II штогадовага фестывалю лядовых і снегавых скульптур «Казачны сад».

**Аляксандр ВАШЧАНКА, фота аўтара**

Два дні над персанажамі са снегу працавалі студэнты сталічных мастацкіх каледжаў імя Глебава і Ахрэмчыка, а фігуры з лёду рабілі прафесійныя скульптары, якім дапамог Мінскі холадакамбінат. Плюсавая тэмпература стварала пэўныя праблемы, але Дзядуля Мароз паспрыяў, і вось нарэшце — адкрыццё! На алеі побач з аранжарэяй гледачы ўбачылі 14 казачных персанажаў, сярод якіх былі медзведзяня Умка, залатая рыбка, Хлопчык-з-пазногцік у строі Несцеркі, папараць-кветка, вялізны гіль, Пегас. Дзеці ў захапленні спрабавалі паляжаць на празрыстай лядовай канапе і пакатацца на снегавым кані.

Па выніках конкурсу, першае месца і прыз сімпатый гледачоў заняла лядовая скульптура «Тэтрыс» Івана Арцімовіча ў выглядзе кубікаў з казачнымі персанажамі на вяршыні. Фігура, з аднаго боку, вяртае нас у чароўныя дзіцячыя гады, а з другога — нагадвае пра неабароненасць і кволасць навакольнага свету. Сярод снегавых скульптур перамагла «Залатая рыбка».

Свята, якое спансіравала кітайская кампанія *Huawei*, працягвалася і пасля падвядзення вынікаў. Гледачы танчылі пад хіты гурта «J:Морс», захапляліся фаер-шоу, уздымаліся ў неба на паветраным шары, каталіся на лыжах і каньках, ласаваліся блінамі і гарачай гарбатай. А можна было проста пагуляць па заснежаных алеях і нечакана сустрэцца з Русалачкай. Таму не пытайцеся, дзе шукаць прыгажосць, — яна вакол нас!



**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3000 рублёў
Наклад — 2770
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 21.02.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 493
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686